*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**№ 58 (3901)**

29 ліпеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## З 1 жніўня ў Беларусі вырастуць пенсіі. Прыбаўка нязначная, але...

Як паведамляецца, працоўныя пенсіі вырастуць у сярэднім на 7,3%. У ліпені сярэдняя працоўная пенсія склала 2 мільёны 414 тысяч рублёў. Для параўнання: у снежні 2013 года яна была 2 мільёны 290 тысяч.

Нагадаем, гэта другое павышэнне пенсій у гэтым годзе. З 1 лютага працоўныя пенсіі беларусаў павялічыліся ў сярэднім на 5,2%. Таксама з 1 мая памер пенсій павялічыўся разам з ростам бюджэту пражытачнага мінімуму. Але ці паспявае рост пенсій за ростам цэн і тарыфаў — пытанне спрэчнае. Па крайняй меры мала хто з пенсіянераў можа сказаць, што стаў багацейшы.

# Аб'яднаная грамадзянская партыя падала ўладам 110 заяў на правядзенне пікетаў з нагоды чарговай гадавіны прыняцця Вярхоўным Саветам 12-га склікання Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі. Ні ў адным рэгіёне краіны ўлады не далі дазвол на правядзенне пікетаў. Такая дэмакратыя па-беларуску!

**ПРЫЗНАЧЭННІ**

## У «Белнафтахіма» новы кіраўнік



Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне старшынёй Беларускага дзяржаўнага канцэрна па нафце і хіміі **Ігара Ляшэнкі,** які да гэтага часу займаў пасаду першага намесніка старшыні "Белнафтахіма".

Нагадаем, што пасада кіраўніка канцэрна стала вакантнай пасля раптоўнага звальнення адной з самых уплывовых асоб нафтавага рынку **Ігара Жыліна.** І да сёння няма афіцыйнай інфармацыі аб прычынах гэтай адстаўкі. Больш за тое, кампетэнтныя службы не абверглі чуткі пра арышт Жыліна, і ў той жа час — не пацвердзілі іх. Крымінальнае адценне гэтай кадравай ракіроўкі ў панядзелак пацвердзіў сам **Аляксандр Лукашэнка,** сустракаючыся з новым прызначэнцам.

*"Я хацеў бы пачуць, што сёння адбываецца ў "Белнафтахіме", якая там сітуацыя,* — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — *Кіраўніка па вядомых прычынах там няма, але гэта яго праблемы. Я ўсіх папярэджваў, што даравання нікому не будзе, калі людзі паводзяць сябе непрыстойна і глядзяць у дзяржаўную кішэню, нічога туды не паклаўшы".*

**ДА ВЕДАМА**

Новы кіраўнік "Белнафтахіма" Ігар Ляшэнка нарадзіўся 5 лістапада 1974 года. Скончыў эканамічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Са студзеня 1997 года працаваў у ААТ "Гомельскі хімічны завод" на пасадзе інжынера аддзела маркетынгу, затым — начальнікам планава-эканамічнага аддзела. У 2006 годзе стаў дырэктарам гэтага прадпрыемства. У верасні 2013 года быў прызначаны на пасаду першага намесніка старшыні канцэрна "Белнафтахім".

**КАДРЫ**

## Александр ПАЛЫШЕНКОВ: «Уходить надо вовремя»



Руководитель Брестского горисполкома **Александр Палышенков** заявил журналистам о своей отставке.

Такое заявление руководитель города над Бугом сделал в минувшие выходные во время празднования 995-летия города.

*— Заявление об уходе в отставку я уже сделал. Сегодня оно находится у президента страны.*

**— Он может не отпустить вас?..**

*— Я думаю, что отпустит. Мне исполнилось 65 лет, из которых 50 лет — общего трудового стажа... Я перенес серьезное заболевание и операцию — и надо уже уходить.*

*Уходить надо вовремя и красиво. Будет расширенная сессия городского Совета депутатов, на которой будет внесен вопрос о новом председателе горисполкома, — после того, как президент примет решение о назначении моего преемника.*

**— Вы можете сказать, кто им будет?**

*— Не будем загадывать. Я проработал в этой должности 10 лет. Но я не должен был стать председателем горисполкома. У президента тогда лежали документы на совершенно другого человека, но я стал руководителем города. Поэтому, зачем сегодня говорить о чем-то?.. Все зависит от главы государства. Какое решение он примет — такое решение и будет. И вот тогда вы скажете "спасибо", потому что я официально передам власть новому градоначальнику и сам налью вам шампанского.*

Прямо скажем, в белорусских реалиях такое случается нечасто — чтобы чиновник высокого ранга помнил о своем возрасте и уходил сам.

**Игорь БОЙКО.**

**ПАД ГРАДУСАМ**



# Спёка

У аўторак у Беларусі захаваецца спёка. Прагназуецца надвор'е пераважна без ападкаў, толькі ў паўночна-заходніх раёнах краіны месцамі пройдуць невялікія кароткачасовыя дажджы, прагрымяць навальніцы.

Вецер будзе паўднёвы, 3—8 метраў за секунду, пры навальніцах — з парывамі да 14 метраў за секунду. Тэмпература паветра ўначы складзе +14...+20 градусаў, удзень паветра прагрэецца да 30—33 градусаў.

Увогуле сіноптыкі прагназуюць, што да канца ліпеня ў многіх раёнах Беларусі дзённая тэмпература паветра будзе складаць 30—35 градусаў вышэй за нуль. Пры гэтым ападкаў практычна не будзе, дажджы магчымы толькі месцамі.

Падобныя тэмпературы паветра захаваюцца і ў першыя дні жніўня.

Такі характар надвор'я адпавядае аранжаваму ўзроўню небяспекі.

**УЧОРА**

## У панядзелак раніцай беларускія мусульмане здзейснілі святочны намаз

Беларускія мусульмане, як і ўвесь мусульманскі свет, у панядзелак адзначылі дзень заканчэння вялікага посту Рамадан — свята Ураза-Байрам.

*"Паводле традыцыі, ён адзначаецца на наступны дзень пасля заканчэння посту і працягнецца тры дні",* — паведамілі ў Мусульманскім рэлігійным аб'яднанні ў Беларусі.

Зараз у нашай краіне дзейнічае каля 10 мячэцяў, чатыры з якіх знаходзяцца на тэрыторыі Гродзенскай вобласці. Службы ў беларускіх мячэцях вядуцца на арабскай мове. Паводле апошняга перапісу насельніцтва, на тэрыторыі Беларусі пражывае каля 30 тыс. чалавек, веравызнанне якіх — іслам: 10 тысяч татараў, 6,5 тысячы азербайджанцаў, па 1,5—2 тысячы ўзбекаў, казахаў, туркменаў.

Першыя згадкі аб мусульманах на тэрыторыі Беларусі адносяцца да XV стагоддзя. Самы старажытны храм мусульман у краіне знаходзіцца ў Іўе Гродзенскай вобласці. У мінулым годзе Мінгарвыканкам дазволіў аднавіць будаўніцтва мячэці ў Мінску на вуліцы Грыбаедава.

**РАСКЛАДЫ**

## Еўрапейскія чыноўнікі застануцца з носам?

Як вы, шаноўныя чытачы, ведаеце, на мінулым тыдні з двухдзённым рабочым візітам наведаў міністр замежных спраў Літвы **Лінас Лінкявічус**. З 2010 года — пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі — гэта другі візіт у нашу краіну еўрапейскага чыноўніка такога рангу. І ўжо толькі гэты факт сам па сабе выклікае цікавасць і ставіць шэраг пытанняў.

Вось толькі некаторыя з іх. Ці ёсць гэта сведчанне таго, што дыялог паміж Бруселем і афіцыйным Мінскам узнаўляецца? Ці не азначае, што зноў напярэдадні чарговай прэзідэнцкай выбарчай кампаніі афіцыйны Мінск пачынае сваю гульню з Захадам?..

Можа, хто запамятаваў, але пяць гадоў таму падзеі разгортваліся падобным чынам. Тады ў кастрычніку 2009 года, за год да прэзідэнцкіх выбараў, Беларусь з рабочым візітам наведала прэзідэнт Літвы **Даля Грыбаўскайтэ**. Пасля візіту ў адным са сваіх інтэрв'ю яна адзначала, што *"Еўропа адкрываецца для Беларусі, пачынае ёй давяраць і хоча прыцягнуць яе да супрацоўніцтва ".* Але чым скончылася "адкрытасць Еўропы" і яе жаданне супрацоўнічаць з беларускай уладай ўсе добра памятаюць: жорсткім разгонам Плошчы 19 снежня 2010 года, тысячамі затрыманых, далейшым пераследам удзельнікаў тых падзей. Людзей пазбаўлялі працы, судзілі, а некаторыя палітвязні дагэтуль знаходзяцца ў турмах.

Зараз да прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі таксама застаецца год. І зноў Беларусь наведвае высокапастаўлены прадстаўнік еўрапейскай краіны — Літвы. Нядаўняя праграма візіту ў Мінск Лінаса Лінкявічуса была досыць шчыльнай. Усяго за адзін дзень ёўрапейскі чыноўнік паспеў правесці сустрэчы з прэм'ер-міністрам **Міхаілам Мясніковічам** і міністрам замежных спраў **Уладзімірам Макеем.** (Чакалася, што ён правядзе перамовы і з Аляксандрам Лукашэнкам. Але не атрымалася...) Таксама Лінкявічус не абмінуў сваёй увагай прадстаўнікоў беларускай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці, родных палітзняволеных.

Як расцэньваць візіт міністра замежных спраў Літвы ў Мінск, якую місію Еўрасаюза ён выконваў у Беларусі? Ці можна рабіць нейкія паралелі паміж сёлетняй сітуацыяй і той, якую мы назіралі ў 2009—2010 гадах?

**Алег ГУЛАК,** ***кіраўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта, удзельнік сустрэчы з міністрам замежных спраў Літвы Лінасам Лінкявічусам:***

— Трэба цвяроза глядзець на сітуацыю. Еўропа не мае дакладна азначаных мэт і моцнай палітыкі па Беларусі. Ёсць каштоўнасці, паважаць якія ЕС патрабуе ад беларускага боку, але відавочна, што Беларусь не настолькі займае галовы еўрапейцаў, каб кінуць усе сілы на дасягненне нейкіх перамен у нашай краіне. З'явілася магчымасць, і еўрапейцы з радасцю размаўляюць з афіцыйным Мінскам. Яны заўсёды спадзяюцца на лепшае...

Параўноўваць цяперашнюю сітуацыю з той, якая складвалася ў 2008—2010 гадах, не зусім правільна. Пэўныя паралелі напрошваюцца, але я не лічу, што Еўропа зноў уцягваецца ў гульню Мінска. У Бруселя свая гульня, у Мінска свая, і ў пэўнай сітуацыі яны накладваюцца, бакі як бы згульваюцца разам. Не трэба выключаць, што свет за гэтыя пяць гадоў стаў іншым. Пры ўсіх паралелях нельга не бачыць, што зараз свет перажывае перыяд амаль халоднай вайны, а у 2009—2010 гадах гэтага не было. І на гэтым фоне ў пэўным сэнсе беларускі рэжым выглядае больш прыгожым, чым раней. Нават нягледзячы на тое, што ў турмах застаюцца палітзняволеныя. Беларусь не стала часткай Расіі і не прыняла цалкам расійскую міжнародную палітыку. І гэта цэніцца еўрапейцамі, і пра гэта наўпрост гаварыў спадар Лінкявічус. Зразумела, што па-ранейшаму для Еўропы асноўнымі застаюцца такія каштоўнасці, як дэмакратыя, правы чалавека, але калі такая непрадказальная стала Расія, на многія рэчы, відаць, мяняецца пункт гледжання.

Прагназаваць зараз, якім будзе надалей дыялог паміж Мінскам і Бруселем, складана. Хто мог прагназаваць, што ў снежні 2010 года адбудзецца тое, што адбылося? Але я лічу, што тыя жорсткія меры, якія мы пабачылі 19 снежня, — пацвярджэнне таго, што той дыялог, тая палітыка, якую Еўропа вяла ў дачыненні да афіцыйнага Мінска, былі карысныя. І прыхільнікі жорсткага рэжыму якраз і бачылі ў ім небяспеку. Таму практыка такога дыялогу, на мой погляд, карысная, і яе трэба вітаць.

**Віцis ЮРКОНІС,** ***літоўскі палітолаг:***

— Будзем шчырыя: Беларусь не з'яўляецца ключавой праблемай знешняй палітыкі Еўрасаюза. Толькі што адбыўся візіт міністра замежных спраў Уладзіміра Макея ў Брусель. Так што візіт Лінкявічуса ў Мінск у якасці пасланца Бруселя я б не разглядаў. За выключэннем таго, што Літва, безумоўна, спрабуе ўтрымаць ініцыятыву ў сваіх руках і не саступаць суседнім Латвіі і Польшчы. А пасля другога візіту менш сарамлівымі стануць і іншыя краіны — другі візіт не першы, а хто лічыць трэцяга-чацвёртага? А перад прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі візіты дэлегацый Еўрасаюза на руку толькі ўладам Беларусі.

Некаторае прасоўванне ў зносінах будзе, і гэта не прагноз, а факт. Бруселю і ўсім дзяржавам ЕС абавязкова трэба прытрымлівацца чырвонай лініі адносна вызвалення сямі беларускіх палітвязняў. Інакш у наступны раз Макей параіць не толькі знайсці месца для Расіі ва "Усходнім партнёрстве", але і стане павучаць, як не варта "ўшчамляць правы рускамоўнага насельніцтва ў Еўропе"... Больш за тое, трымацца толькі гэтай лініі мала; ёсць шэраг сістэмных праблем са СМІ, з грамадзянскай супольнасцю і з правамі чалавека ў Беларусі. Любыя спробы дыялогу павінны мець гэтыя складнікі і канкрэтныя пункты перамоў. Да гэтага трэба рыхтавацца, інакш еўрапейскія палітыкі зноў будуць выстаўлены на пасмешышча, як у 2008—2010 гадах. Успомнім, што тады зарэгістравалі рух Мілінкевіча, дазволілі распаўсюджваць дзве незалежныя газеты, але не адбылося ніякіх сістэмных змен. Тыя палітыкі, якія шчыра верылі ў магчымасць дыялогу, засталіся з носам.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**ПОЛИТИКА**

*Андрей ФЕДОРОВ, политолог*

## Потепление — еще не тепло

В конце июня произошла смена временных поверенных в делах США в Беларуси: говоря актуальным ныне футбольным языком, вместо Итана Голдрича вышел Скотт Роланд. Как известно, причиной замены далеко не всегда является недовольство тренера действиями игрока. Вот и в данном случае, как представляется, покинувшего поле едва ли можно упрекнуть в плохой игре.

В самом деле, нельзя отрицать, что за два года пребывания господина Голдрича в нашей стране в белорусско-американских отношениях наметился положительный сдвиг, пусть пока не слишком значительный. Во всяком случае тот факт, что совместно с Госдепартаментом велась работа, направленная на нормализацию белорусско-американских отношений, засвидетельствовало даже белорусское внешнеполитическое ведомство, которое в минувшие годы было крайне скупым на позитивные высказывания в адрес Вашингтона, зато очень часто его чрезвычайно энергично критиковало.

В частности, на брифинге в МИД РБ, состоявшемся 6 июня, было чуть ли не впервые публично признано, что, оказывается, еще с 2004 года Беларусь разрешает использовать свое воздушное пространство и осуществлять посадки на своих аэродромах для снабжения сил США в Афганистане. А с января 2011 года через нашу территорию в тех же целях осуществляется и железнодорожный транзит грузов, причем в прошлом году данная договоренность была подтверждена и расширена.

Не ведала белорусская общественность и про сотрудничество по предотвращению незаконного транзита ядерных материалов, которое способствовало "раскрытию конкретных международных преступлений, наносивших ущерб личной и имущественной безопасности граждан Беларуси, США и других государств".

Со своей стороны, Соединенные Штаты поддержали выдвинутые Беларусью в ООН инициативы по борьбе с торговлей людьми и предотвращению незаконной торговли органами.

Наконец что-то зашевелилось и в области торговли и инвестиций. Так, 2 апреля глава белорусского внешнеполитического ведомства Владимир Макей принял делегацию во главе с высокопоставленным представителем компании General Motors Энди Данстаном и обсудил с ним ход реализации инвестиционного проекта по созданию в Беларуси сборочного производства легковых автомобилей.

Предполагалось, правда, что первый автомобиль сойдет с конвейера к 3 июля, однако праздник прошел, а победные реляции что-то не гремят. Не сорвалось бы, как когда-то с Ford Motors...

Кроме того, в первом полугодии прошла целая серия экономических мероприятий. 30 января в Вашингтоне состоялась презентация возможностей делового и инвестиционного сотрудничества с Беларусью, организованная Посольством Беларуси в США совместно с американскими Центром "Евразия" и Евразийской бизнес-коалицией. По сведениям МИД, в ней приняли участие "представители аппарата Конгресса, госдепартамента, Министерства торговли и Национальной академии наук США, Всемирного банка, МВФ, правительств города Вашингтона и штата Мэриленд, американских консалтинговых и юридических фирм, аналитических центров, университетов и общественных организаций". Они "положительно охарактеризовали созданные в Беларуси условия для торгового и инвестиционного взаимодействия, призвав инвесторов из США к более активному сотрудничеству с нашей страной".

(Окончание на 2-й стр.)

**СУД**

## Каму паверыў Сушко...

*У панядзелак суд Маскоўскага раёна горада Мінска асудзіў вядомага грамадскага актывіста, прадпрымальніка* ***Алеся Макаева*** *на 15 сутак арышту. Затрымалі яго яшчэ ў нядзелю пасля таго, як на традыцыйную малітву ля Чырвонага касцёла ў Мінску Алесь прыйшоў з бел-чырвона-белым сцягам.*

Суддзя **Максім Сушко** спачатку пагадзіўся з просьбай Аляксандра Макаева весці працэс па-беларуску і, на думку журналістаў, карыстаўся мовай нават больш пісьменна, чым прадпрымальнік. Але...

Макаева судзілі адразу па двух артыкулах — за хуліганства і непадпарадкаванне міліцыі. Не за сцяг. Сведчыў супраць грамадскага актывіста капітан міліцыі **Язэпаў**, які сцвярджаў, што ў момант затрымання Алесь Макаеў нібыта брыдкасловіў і адмаўляўся падпарадкавацца.

Макаеў гэта абвяргае. Прадпрымальнік паведаміў суддзі, што яго затрымлівалі два прапаршчыкі, а капітана Язэпава ён убачыў ужо каля міліцэйскага аўтамабіля, да якога яго адвялі пасля затрымання. Ніякіх пратаколаў, як сцвярджае Макаеў, яму падпісваць не прапаноўвалі. Хаця ў рапартах міліцыянеры сцвярджаюць, што затрыманы адмовіўся падпісваць пратаколы.

Алесь Макаеў настойваў на тым, што падпісаў толькі вопіс рэчаў, якія ў яго забралі, і там пунктам №9 быў бел-чырвона-белы сцяг. А ў вопісе, які фігураваў у матэрыялах справы, гэты пункт выкраслены.

*"Бачыце, яны знішчаюць усе доказы таго, што мяне затрымалі за сцяг, бо ісці са сцягам не забаронена. Таму з мяне робяць хулігана і брыдкаслоўніка, абы пакараць",* — заявіў Алесь Макаеў у судзе.

Цуду не адбылося. Суддзя, як гэта традыцыйна бывае ў нашай сістэме, паверыў міліцыянерам. І паведаміў актывісту, што асуджае яго на арышт. Па-беларуску паведаміў...

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ТРАГЕДЫЯ

# Смерць на вулкане

*У мінулыя выхадныя пахавалі беларускіх альпіністаў, якія загінулі на Камчатцы падчас узыходжання на вулкан Камень.*

Група беларускіх турыстаў у складзе васьмі чалавек адправілася ў падарожжа на Камчатку 2 ліпеня. Раніцай 9 ліпеня кіраўнік групы **Сяргей Франкоўскі** і **Андрэй Крупадзёраў** пайшлі на ўзыходжанне на вулкан Камень, астатнія шэсць чалавек засталіся чакаць іх у лагеры.

Апошні раз Сяргея і Андрэя бачылі ў той жа дзень на грэбені вечарам. Затым сувязь перарвалася. Ноччу шэсць чалавек спрабавалі арганізаваць самастойныя пошукі, але безвынікова. А зранку ўсё ахутала туманам, таму выйсце заставалася



Сяргей Франкоўскі.



Андрэй Крупадзёраў.

адно — ісці за дапамогай да мясцовых выратавальнікаў.

Апошнія пачалі пошукі 11 ліпеня. І праз тры дні загінуўшых беларусаў знайшлі на вышыні 3400 метраў. Яны былі звязаны паміж сабой вяроўкамі. Паводле папярэдняй версіі, адзін з іх сарваўся з ледавіка і пацягнуў за сабой другога. Шанцаў на выратаванне, відаць, не было...

*“Пошукі праходзілі дастаткова складана, таму што на гэты вулкан у нас нават мясцовыя альпіністы не заўсёды падымаюцца*, — распавяла “Народнай Волі” супрацоўніца пошукава-выратавальнага атрада “Камчатка” **Таццяна ЮХМАНАВА.** — *Вашы хлопцы пагарачыліся, калі перад выхадам не зарэгістраваліся ў нас. Іх целы знайшлі амаль каля лагера, напэўна, спуск з вулкана быў вельмі складаны. А затым і надвор’е сапсавалася. З-за гэтага нават верталёт не мог забраць целы некалькі дзён. Дарэчы, надвор’е ў нас настолькі непрадказальнае, што нават у Петрапаўлаўску-Камчацкім яно па тры-чатыры разы на дзень мяняецца. Уявіце, што адбываецца на вышыні 3 тысячы метраў! Людзі пераацэньваюць свае сілы, што і прыводзіць да такіх трагічных наступстваў”.*

Целы загінуўшых беларусаў спачатку прывезлі ў морг Петрапаўлаўска-Камчацкага, а затым у Маскву. Аказалася, што расійская страхоўка была толькі ў Сяргея Франкоўскага.

*“Калі дакладна стала вядома, што загінулі грамадзяне Беларусі, наш кіраўнік аддзялення ў Хабараўску Уладзімір Васільевіч Максімаў выйшаў на губернатара Камчаткі і папрасіў узяць справу пад асабісты кантроль,* — расказвае прэс-сакратар Пасольства Беларусі ў Расіі **Аляксандр ГАРДЗЕЙЧЫК**. — *Разглядалася пытанне па транспарціроўцы целаў загінуўшых на радзіму, аднак узнікла праблема, калі даведаліся, што Андрэй Крупадзёраў не быў застрахаваны. Аднак у рэшце рэшт усё вырашылася. Наша пасольства пастаянна кантралявала сітуацыю”.*

Загінуўшыя не былі прафесійнымі альпіністамі, яны ўваходзілі ў Клуб аматараў актыўнага адпачынку “Магадан”.



Загінуўшых беларусаў знайшлі 14 ліпеня.

*“Сяргей Франкоўскі планаваў пайсці ў паход яшчэ ў мінулым годзе*, — распавядае мне яго сябра **Аляксандр СМІРНОЎ**. — *Але яго давялося адмяніць — з-за недастатковай кваліфікацыі ўдзельнікаў. А ў гэтым годзе ў маі сфарміравалі канчатковую групу і адправіліся на Камчатку. Наколькі вядома, і зараз на вяршыню адправіліся толькі двое, таму што Сяргей астатніх не ўзяў. Нехта стаміўся, хтосьці быў недастаткова падрыхтаваны... Дарэчы, сёння некаторыя кажуць, што, маўляў, Франкоўскі не быў прафесіяналам, не ўваходзіў у Федэрацыю альпінізму. Але хіба для таго, каб быць прафесіяналам, трэба абавязкова знаходзіцца ў складзе нейкай структуры? А Сяргей займаўся альпінізмам больш за 10 гадоў, у яго было шмат паходаў рознага ўзроўню складанасці. І вулкан Камень быў яму па сілах. Гэта проста нейкі трагічны збег абставін”.*

Сяргей працаваў праграмістам у Магілёве. Андрэй — на кафедры тэарэтычнай і прыкладной механікі Белдзяржуніверсітэта, кандыдат тэхнічных навук. У першага застаўся 15-гадовы сын, у другога — двое 4-гадовых дзетак-двайнятак. Дарэчы, на Камчатцы ў складзе групы былі і жонкі загінуўшых.

У мінулыя выхадныя Сяргея Франкоўскага і Андрэя Крупадзёрава пахавалі. Як спяваў Уладзімір Сямёнавіч Высоцкі:

*Нет алых роз и траурных лент,*
*И не похож на монумент*
*Тот камень, что покой*
*тебе подарил...*

**Алесь СІВЫ.**

## З НАГОДЫ

— Ніхто з загінуўшых не з’яўляўся сябрам нашай арганізацыі, — адзначае старшыня Беларускай федэрацыі альпінізму **Аляксандр ГАДЛЕЎСКІ.** — “Магадан” — самастойны клуб аматараў актыўнага адпачынку. І, шчыра кажучы, такім аматарам мы спачуваем: яны дзейнічаюць паводле сваіх правілаў. У выніку хлопцы дапусцілі шмат сур’ёзных памылак, якія прывялі да трагедыі. Гэта вялізны боль! Людзі загінулі, па сутнасці, на вачах у сваіх жонак, якія таксама былі ў паходзе.

**— Узыходжанне на вулкан Камень — складаны маршрут?**

— Разумееце, альпінізм — гэта спорт, а не аматарскае захапленне. Неабходна пастаянная вучоба, трэніроўкі, трэба ісці да вяршынь крок за крокам. Для гэтага існуюць альпінісцкая школа, спецыяльныя лагеры... Я быў неяк на двух вулканах на Камчатцы. Гэта вельмі складаныя маршруты, таму што ў любы момант можна апынуцца пад каменяпадам, як пад артылерыйскім абстрэлам. Сонца топіць лёд — з-за гэтага ўніз на галовы тых, хто спрабуе падняцца, сыплюцца камяні і кавалкі бруду. Нават вопытныя альпіністы баяцца ўзыходзіць на вулканы па невядомых маршрутах. На такой паверхні ў першую чаргу павінна быць надзейная страхоўка і надзейныя спосабы руху. З выгляду пакатыя схілы насамрэч таяць у сабе смяротную небяспеку. Таму паход туды — не экзатычнае падарожжа, падрыхтоўка павінна быць адпаведная. А калі ўжо народ шукае экстрым, то, па-першае, усе ўдзельнікі павінны застрахавацца. Па-другое, неабходна напярэдадні атрымаць кансультацыі спецыялістаў-прафесіяналаў. Акрамя таго, трэба, каб былі арганізацыі, якія правяралі б турыстаў перад выхадам на маршрут на наяўнасць рыштунку, неабходнай падрыхтоўкі людзей... Вельмі вялікі кошт расплаты за памылкі — чалавечае жыццё.

З-ЗА КРАТАЎ

# Мікалай Статкевіч: пачасціліся дробныя правакацыі

Былы кандыдат у прэзідэнты **Мікалай Статкевіч** падчас тэлефоннай размовы з жонкай паведаміў пра новыя дробныя правакацыі супраць яго ў магілёўскай турме.

*“Кажа, што рэальна нешта адбываецца: нейкая мітусня, дробныя правакацыі пачасціліся, газеты прыносяць, толькі калі тры разы нагадаеш, а некаторыя не даносяць зусім, лісты блакіруюць,* — расказала Марына Адамовіч. — *Плюс часта сталі праводзіць з ім розныя выхаваўчыя гутаркі. Не ведаю, з чым ён гэта звязвае, але ад сябе скажу, што такая рэакцыя звычайна супадае з прыкметамі перамоў улад з прадстаўнікамі Еўропы”.*

Таксама Мікалай Статкевіч падзяліўся з жонкай апошнімі навінамі пра турэмны побыт: *“Сказаў, што першы раз за апошнія чатыры ці колькі месяцаў раптам далі бігас. У іх лета заўсёды галоднае, нічога з вітамінаў не бывае, а тут раптам далі бігас. Для яго гэта неяк паказальна”.*

Нагадаем, што былога кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча асудзілі на 6 гадоў зняволення нібыта за арганізацыю масавых беспарадкаў у дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Статкевіч сваёй віны не прызнаў.

АБВЯРЖЭННЕ

# Мінэканомікі: нас не так зразумелі

Міністэрства эканомікі Беларусі абвергла публікацыі ў СМІ аб павышэнні тарыфаў на электраэнергію для садаводчых таварыстваў і дачных кааператываў.

*“Некаторыя сродкі масавай інфармацыі распаўсюдзілі паведамленні, якія не адпавядаюць рэчаіснасці, аб павышэнні тарыфаў на электраэнергію для садаводчых таварыстваў і дачных кааператываў. Падобныя паведамленні з’явіліся вынікам памылковага разумення пастановы Міністэрства эканомікі ад 12 ліпеня №51”,* — гаворыцца ў паведамленні ведамства.

Згаданай пастановай былі павышаны тарыфы на электраэнергію для гаражных кааператываў і кааператываў, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю аўтамабільных стаянак да ўзроўню, што забяспечвае поўнае пакрыццё выдаткаў — да 917,2 рублёў за 1 квт·г (да гэтага — 745,9 рублеў за 1 квт·г.).

Як запэўнівае ведамства, тарыфы на электраэнергію для садаводчых таварыстваў і дачных кааператываў не змяніліся і засталіся на ранейшым узроўні.

ПОЛИТИКА

# Потепление — еще не тепло

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

13 марта в белорусском посольстве в США состоялась еще одна презентация — торгово-экономических и инвестиционных возможностей Беларуси для членов Клуба молодых профессионалов Вашингтона. Там тоже были обсуждены возможности взаимовыгодного делового взаимодействия с Беларусью, а также представлена деятельность белорусско-американского Совета делового сотрудничества.

А в середине мая Хьюстон, что в Техасе, посетила делегация во главе с председателем Могилевского горисполкома Владимиром Цумаревым. Мэры обсудили перспективы развития разноплановых партнерских отношений, а затем прошел белорусско-техасский бизнес-форум с презентацией возможностей торгово-экономического сотрудничества с Могилевом и с Беларусью в целом.

Конечно, говорить об успешности взаимодействия в данной сфере явно преждевременно. Тем не менее какие-то горизонты все-таки могут открыться.

Также, по словам Итана Голдрича, значительно улучшились отношения между США и Беларусью в области культуры. А всемирно известный американский кардиохирург Вильям Новик в очередной раз приехал в Беларусь с благотворительной акцией “Детское сердце”. Безвозмездно проведенные под его руководством сложнейшие операции должны спасти жизни еще десятку маленьких пациентов.

Что же касается обычных белорусских граждан, то для них, вероятно, наиболее привлекательным результатом станет предстоящее расширение постоянного штата американского посольства с пяти до шести человек. Впервые после радикальных сокращений, имевших место в 2008 году, это позволит специальному сотруднику заниматься консульскими вопросами и, соответственно, принимать больше визовых заявок.

Понятно, что один человек будет не в состоянии обработать больше некоего ограниченного количества заявок, поэтому вожделенное счастье обретут лишь некоторые категории населения, но все же это существенно лучше, чем вообще ничего.

Надо полагать, с учетом всех этих обстоятельств 11 июня пресс-секретарь МИД без особого возмущения прокомментировал решение американской администрации о продлении еще на год действия известного “Акта о демократии в Беларуси”. Фактически он лишь отметил, что “подобные решения препятствуют развитию белорусско-американских отношений” и рекомендовал Белому дому “обратить внимание на абсурдность формулировок... о наличии якобы исходящей от Беларуси “необычной и чрезвычайной угрозы национальной безопасности и внешней политике США”, особенно на фоне имеющихся реальных примеров взаимодействия между нашими странами по наиболее важным вопросам глобальной и региональной безопасности”.

Разумеется, было бы чересчур наивно ожидать разрешения сразу всех противоречий. Причем если одни из них, как, скажем, вызвавшее в Беларуси “волну негодования” отнесение американским телеканалом CNN памятника в Брестской крепости к числу, мягко говоря, не самых привлекательных монументов мира, трудно считать очень уж серьезным, то другие вполне могли привести к весьма негативным последствиям.

Речь идет, в частности, о подозрениях в причастности нашей страны к истории с принудительной посадкой Ираном американского беспилотника и к созданию его иранского аналога. Кроме того, американская разведка будто бы призвала проверить новую компьютерную сеть американской службы здравоохранения на предмет вредоносных программ в связи с появлением сообщений о том, что к разработке сайта причастны программисты, связанные с белорусским правительством. Впрочем, на данный момент эти подозрения, по-видимому, не подтвердились, и в итоге можно согласиться с выводом, что в отношениях Беларуси с Соединенными Штатами последнее время наблюдается некоторое смягчение позиций. Как, кстати, и с Европейским Союзом.

Но тогда вновь встает извечный вопрос: поспособствует ли этот процесс достижению конечной цели каждой из сторон? Для Минска таковой является, понятное дело, отмена всех санкций, тогда как для Вашингтона — проведение здесь демократических преобразований, а в качестве первого этапа — освобождение политзаключенных. Ибо, как заверил в своем прощальном интервью Итан Голдрич, позиция США в отношении прав человека и демократизации остается последовательной и принципиальной.

На сей счет существуют прямо противоположные точки зрения. Согласно одной из них, которой придерживается радикальная часть белорусской оппозиции, сближение лишь способствует укреплению режима, практически не меняя его сущности. Ее приверженцы, по сути, исповедуют принцип “чем хуже — тем лучше”, полагая, что максимально жесткое давление Запада неизбежно приведет к резкому снижению уровня жизни белорусского населения (что действительно не исключено) с последующим выходом его на улицы для свержения действующей власти (что сомнительно).

Сторонники другого подхода, напротив, достаточно оптимистично оценивают возможные последствия нынешних тенденций. Они исходят из тех соображений, что официальный Минск был напуган откровенной агрессией России против Украины и в целях самосохранения стал склоняться к движению навстречу отдельным западным требованиям.

В целом с такими рассуждениями согласиться можно. В то же время не следует переоценивать готовность режима “поступиться принципами”. По крайней мере утверждение, что на фоне ситуации в Украине Беларусь и Соединенные Штаты “обречены на восстановление отношений”, представляется слишком уж оптимистичным хотя бы потому, что в глазах Белого дома поведение Минска в украинских событиях вряд ли всегда выглядело безупречным.

Белорусское руководство прекрасно осознает, что в складывающейся ситуации угроза в перспективе потерять власть может надвинуться как с запада, так и с востока, хотя, ясное дело, совершенно по-разному. И, несмотря на украинский пример, похоже, что на сегодняшний день основным источником опасности по-прежнему видится Запад.

Соответственно, хотя лавирование наверняка будет продолжаться, дальше определенной (причем не слишком далекой) черты белорусские власти на сближение с ним не пойдут. Тем более в свете того, к чему привело подобное намерение Киев.

Так что отдельных позитивных шагов вроде освобождения политзаключенных ожидать можно, однако на кардинальные перемены во внутренней политике надежд крайне мало. Со всеми вытекающими последствиями.

ЗДАРЭННЕ

# Жахлівы заезд

***Супрацоўнікі ДА “расстралялі” фуру, каб спыніць неадэкватнага кіроўцу. Перад гэтым яны амаль 150 кіламетраў праследавалі яго. Падзеі адбываліся на трасах Гродзенскай і Брэсцкай абласцей у мінулую нядзелю.***

Вечарам 27 ліпеня ў дзяжурную часць Баранавіцкага РАУС патэлефанавалі супрацоўнікі ДАІ Слоніма з просьбай дапамагчы спыніць неадэкватнага кіроўцу. Яны паведамілі, што па трасе М1 у бок Баранавічаў рухаецца аўтавоз “Сканія” з мінскімі нумарамі, які віляе з боку ў бок і ігнаруе патрабаванні аб прыпынку. Як высветлілася, на той момант гэты аўтавоз ужо здзейсніў тры аварыі ў Гродзенскай вобласці. Спрабуючы яго спыніць, супрацоўнікі Слонімскай ДАІ адстралялі па колах каля 80 патронаў, але машына, віхляючы, працягвала рухацца.

На месца выехаў ужо баранавіцкі экіпаж. Міліцыянеры зноў і зноў падавалі кіроўцу фуры сігналы аб прыпынку, але той па-ранейшаму не рэагаваў. Тады яны пачалі страляць па колах, прабілі паліўны бак, але парушальнік і не думаў спыняцца. Каб пазбегнуць аварыйных сітуацый, супрацоўнікі раённай ДАІ паехалі па трасе перад фурай, папярэджваючы аб небяспецы нічога не падазраючых кіроўцаў, якія ехалі наперадзе па трасе. Толькі калі ўсё паліва выцекла з бака, фура спынілася.

На парушальніка, які за чатыры дні да здарэння адзначыў свае 30-годдзе, надзелі кайданкі. Зараз па факце здарэння праводзіцца праверка.

Як высветліла “Народная Воля”, гэты жах на дарозе ўчыніў мінчанін 1984 года нараджэння, прозвішча якога праваахоўнікі пакуль не называюць. Як і чакалася, ён аказаўся нецвярозым: пазней у крыві выявілі 1,9 праміле алкаголю.

Нам удалося аднавіць храналогію падзей.

Пачыналася ўсё з таго, што фура Scania, якая перавозіла пяць Ford Tourneo Courier, на 67-м кіламетры дарогі Баранавічы—Ваўкавыск—Гродна ўрэзалася ў прыпаркаваны Mercedes Sprinter. Дальнабойшчык з месца здарэння з’ехаў. Інфармацыя паступіла ў ДАІ. Першы нарад выехаў на затрыманне аўтамабіля.



Праз дзесяць хвілін на 61-м кіламетры той жа дарогі дальнабойшчыка ўдалося дагнаць. Яму падалі сігнал аб прыпынку: уключылі спецсігналы, неаднаразова звярталіся па гучнагаварыцелі. Калі стала зразумела, што кіроўца Scania спыняцца не збіраецца, супрацоўнікі ДАІ выклікалі дапамогу.

Вадзіцель і не думаў спыняцца. Больш за тое, пры выкананні абгону ён здзейсніў сутыкненне з Volkswagen Passat і паехаў далей. Стала відавочна, што ён уяўляе сур’ёзную пагрозу. Неаднаразовым патрабаванням аб спыненні ён не падпарадкоўваўся, таму было вырашана адкрыць па фуры агонь. Спачатку было зроблена некалькі стрэлаў у паветра, а потым — па колах. Тым не менш фура працягвала рух у бок Баранавічаў.

Што адбывалася пад Баранавічамі, мы ўжо апісалі. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, на момант, калі гэтая жахлівая гонка была спынена, у фуры засталіся цэлымі толькі два колы. Таксама была пашкоджана адна з машын, якія перавозіў гора-імяніннік.





**Алег СНОЎ.**

ТРЫВОЖНА

# Прывід чумы...

*“Народная Воля” паведамляла ўжо аб тым, што сітуацыя з афрыканскай чумой свіней, выпадкі якой былі выяўлены ў нашай краіне летам мінулага года, як быццам зноў абвастрылася. Небяспечнае захворванне зафіксавана ў літоўскіх вёсках паблізу ад беларускай мяжы. У сувязі з гэтым беларускія ўлады загадваюць некаторым мясцовым жыхарам забіць скаціну на прыватных падворках. І зноў людзі абураюцца.*

Гэтымі днямі жарсці кіпяць у вёсцы Мосар Глыбоцкага раёна, што на Віцебшчыне. А ўсё пачалося са званка старасты вёскі. Жанчына ад шасці раніцы тэлефанавала ў кожную хату. Яна казала, што ўсім трэба забіваць свойскіх свіней. Прычына — эпідэмія афрыканскай чумы.

Жыхар вёскі Пётр Губскі распавёў “Народнай Волі”:

— Я патэлефанаваў старшыні нашага сельсавета Віктару Карману, і ён мне сказаў, што ўспышка чумы пацвердзілася, і дадаў: “Калі хочаш быць з мясам, то зараз забівай. Бо потым ужо будуць хадзіць па дварах. Калі зарэжуць яны, то табе ўжо мяса не дадуць”. Ну што рабіць? А такая ж спёка стаіць! Людзі плакалі. У мяне тры парсючкі кілаграмаў пад 80. Канешне, іх яшчэ рана біць. Ды і куды дзець мяса? Мы з жонкай адну тушу ўладкавалі, а іншыя ўжо брат дапамагаў. Спецыяльна прыехаў. Некаторыя пабеглі набываць маразільнікі. А ў нашых людзей заробкі ведаеце якія? І што вы думаеце... Нам сказалі, што будзе сход. На той сход прыйшоў наш ветэрынар і сказаў, што ў нашых свіней АЧС няма. Рабілі аналіз, і хвароба не пацвердзілася. Сказаў, што гэта папросту старшыня сельсавета так перастрахаваўся. Гэта што — здзек з людзей?! Яму напляваць, што парсючок зараз каштуе паўтара мільёна рублёў, а заробкі ў нас па два ці па два з паловай мільёны! Мы абурыліся, пачалі тэлефанаваць старшыні сельсавета, каб ён прыехаў на сход і патлумачыў людзям, як такое адбылося. Дык ён катэгарычна адмовіўся. Вось цяпер мы думаем, ці не звярнуцца нам у пракуратуру альбо ў суд. Няхай дадуць ацэнку таму, што адбылося, і вызначацца, хто нам мусіць кампенсаваць страты. Народ вельмі абураецца.

Нагадаем афіцыйную пазіцыю беларускай ветэрынарнай службы. Новых выпадкаў АЧС у Беларусі пакуль не зафіксавана. Але ў некаторых рэгіёнах ёсць пагроза ўзнікнення захворвання, бо выпадкі свіной чумы выяўлены ў суседніх дзяржавах — Літве, Расіі, Украіне. У такіх раёнах людзей просяць забіць свіней, каб не дапусціць эпідэмію ў нашу краіну. Наколькі законныя такія патрабаванні — пытанне іншае. Паводле беларускага заканадаўства, прымусовы забой свіней можа адбывацца толькі ў пяцікіламетровай зоне ад свінакомплексаў альбо ў каранцінных зонах. Каранцін не аб’яўляўся...

**Любоў ЛУНЁВА.**

**АФІЦЫЙНА**

## Як не пераблытаць ваду і гарэлку?

*Міністэрства гандлю адказала на зварот, падпісаны больш як 10 тысячамі чалавек з мэтай спынення алкагалізацыі ў краіне.*

Ініцыятары звароту сфармулявалі свае прапановы па элементарных мерах, якія здольны паўплываць на распаўсюджванне ў краіне страшнай бяды — алкагалізацыі. Сярод асноўных прапаноў — вынас алкагольнай прадукцыі з агульных гандлёвых залаў у асобныя памяшканні, забарона рэкламы парасонавых брэндаў (“пітных водаў” “Бульбаш”, “Сваяк” і г.д.), забарона рэкламы піва, спрыянне дзейнасці дабрачынных арганізацый, якія дапамагаюць выйсці з алкагольнай залежнасці (вярнуць права льготнай арэнды памяшканняў і г.д.).

У адказе за подпісам намесніцы міністра **Ірыны Наркевіч** паведамляецца, што міністэрствам “распрацаваны і ўнесены ў вызначаным парадку праект Закона Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змен у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб рэкламе”, які прадугледжвае забарону рэкламы парасонавых брэндаў”.

Разам з тым Мінгандлю, спаслаўшыся на іншыя міністэрствы, лічыць вынас алкагольнай прадукцыі ў асобныя памяшканні немагчымым.

Каардынатар кампаніі “Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю” **Вольга Кавалькова** так пракаментавала афіцыйны адказ:

*— Добра, што хоць нейкія крокі будуць зроблены ў накірунку дэалкагалізацыі, бо рэклама брэндаў набыла велізарныя маштабы, калі пад выглядам пітной вады шырока прапагандуюцца спіртныя напоі. Мы будзем настойваць на ўнясенні іншых змен, падтрыманых тысячамі грамадзян Беларусі. Мы будзем надалей дамагацца прыняцця нашых прапаноў, бо тое, што сёння адбываецца, калі алкаголь у крамах прадаецца побач з малаком, безалкагольнымі напоямі, з’яўляецца дзейснай рэкламай для дзяцей, якія бачаць гарэлку разам з ліманадам. Гэта трэба забараніць!*

**СІТУАЦЫЯ**

## Хлопец уцёк ад войска ў Венесуэлу

*23-гадовы брэстаўчанін спадзяваўся пераседзець службу ў беларускім войску за акіянам.*

Хлопец скончыў Брэсцкі тэхнічны ўніверсітэт і размеркаваўся ў ЗАТ “Белзамежбуд”. Калі яму прыйшла позва ў войска, ён праігнараваў запрашэнне і паехаў на год у камандзіроўку ў Венесуэлу. Перад ад’ездам малады чалавек усё ж наведаў ваенкамат, але пашпарта пры сабе не меў. Ён патлумачыў, што здаў яго ў амбасаду для адкрыцця візы, а пра свае планы надоўга з’ехаць за мяжу не паведаміў. Прызыўнік атрымаў накіраванне на аналізы для медкамісіі і яшчэ адну позву — на кастрычнік, пасля чаго і з’ехаў у Венесуэлу. Яго наймальнікі таксама не ведалі, што работнік павінен ісці ў войска.

Пакуль хлопец быў у камандзіроўцы, у яго памёр бацька, і малады чалавек быў змушаны вярнуцца ў Беларусь. Ужо на радзіме ён даведаўся, што на яго завялі крымінальную справу за ўхіленне ад войска. Свой ад’езд малады чалавек патлумачыў неабходнасцю зарабіць грошай на лекі бацьку, аднак следства ў гэтую версію не паверыла.

Як паведамляе “Вячэрні Брэст”, суд прызнаў яго вінаватым ва ўхіленні ад прызыву і прызначыў 6 мільёнаў штрафу. Таксама маладому чалавеку ўсё ж давядзецца адслужыць ва Узброеных сілах.

**ВАС ЦІКАВІЦЬ...**

## Не так страшна на Нарачы, як расказваюць...

***Зноў сезон адпачынкаў, зноў спякота, зноў многія беларусы не могуць дазволіць сабе адпачынак за межамі краіны. У сувязі з гэтым мяне цікавіць: ці вырашана праблема з адпачынкам на Нарачы? Маю на ўвазе тую сітуацыю, калі людзі, пакупаўшыся ў самым вядомым возеры Беларусі, набывалі сабе захворванні скуры.***

**Ірына Цяльцова, г.Мінск.**



Як высветлілася, чуткі аб небяспецы купання ў возеры Нарач занадта перабольшаны. З пачатку мая бягучага года ў Нарачанскай курортнай зоне зарэгістравана пяць выпадкаў заражэння цэркарыёзам, што ў тры разы менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Аб гэтым паведамілі ў Рэспубліканскім цэнтры гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя.

Хаця сапраўды на мелкаводдзі, якое добра праграваецца сонцам, у вадзе ствараюцца спрыяльныя ўмовы для размнажэння лічынак гельмінтаў вадаплаўных птушак — цэркарыяў. Гэтыя мікраарганізмы здольныя свабодна перамяшчацца ў вадзе, назапашвацца ў прыбярэжнай воднай расліннасці і нападаць на вадаплаўных птушак або чалавека. У людзей, якія падоўгу знаходзяцца ў вадзе, можа развіцца цэркарыяльны алергічны дэрматыт, або “сверб купальшчыкаў”.

Каб пазбегнуць заражэння цэркарыёзам, медыкі раяць купацца толькі на спецыяльна абсталяваных пляжах, трымацца далей ад вялікай колькасці рачных малюскаў і месцаў гнездавання вадаплаўных птушак. Лепш выбіраць для купання ўчасткі з глыбінёй больш за метр і не затрымлівацца на мелкаводдзі, знаходзіцца ў вадзе не больш як 5—10 хвілін. Для абароны ад пранікнення лічынак скуру перад купаннем можна змазваць крэмамі і алеямі. Выйшаўшы з вадаёма, неабходна апаласнуцца водаправоднай вадой, а калі такой магчымасці няма, то трэба насуха выцерціся ручніком.

Таксама спецыялісты рэкамендуюць не прыкармліваць вадаплаўных птушак у месцах, прызначаных для купання, паколькі гэта можа стварыць новы актыўны ачаг захворвання. Прычым гэтыя парады тычацца не толькі Нарачы.

**ЖАХ!**

## Паклаў галаву на рэйкі

Здарэнне адбылося ў Смаргоні. Мужчына пераходзіў чыгуначныя рэйкі і раптам вырашыў звесці рахункі з жыццём.

*— 62-гадовы мужчына з псіхічнымі адхіленнямі пераходзіў чыгуначныя пуці. Раптам ён рэзка развярнуўся і крочыў назад, да тых рэек, па якіх ехаў пасажырскі цягнік Смаргонь—Маладзечна. Мужчына лёг, паклаў галаву на рэйкі. Ні экстраннае тармажэнне, ні папярэджваючыя сігналы, якія падаваў машыніст цягніка, не змаглі прадухіліць трагедыю. Мужчына загінуў на месцы,* — распавёў начальнік Смаргонскага раённага аддзела Следчага камітэта **Андрэй Рэзін.**

Зараз Следчы камітэт праводзіць праверку па гэтай трагедыі.

### Дарэчы

Жаданне пакончыць з сабой, кінуўшыся пад цягнік, узнікае ў асноўным у мужчын. За шэсць месяцаў гэтага года было мінімум шэсць такіх самазабойцаў. Беларускія жанчыны выбіраюць іншыя спосабы развітання з жыццём.

Па самазабойствах сярод мужчын Беларусь займае трэцяе месца ў свеце пасля Літвы і Расіі. Прыкладна 49 беларусаў з 100 тысяч штогод пазбаўляюць сябе жыцця.

**ГОСУДАРСТВЕННАЯ ТЕМА**

# Во все века берут и грабят мужика

*Очередная жатва в разгаре, разворачивается, как пишут в “правильных” СМИ, “стремительными темпами”. Но, думается, не это сейчас главное. Есть смысл поговорить о будущем белорусского АПК — в преломлении затеянных в текущем году очередных преобразований. Правда, инициированные “сверху” реформы пока напоминают некий фантом — все о нем слышали, но никто не видел.*

*Своими мнениями на тему, как обустраивать агросектор Беларуси поделились известные, авторитетные в аграрном сообществе эксперты: **Михаил Анатольевич КАДЫРОВ**, доктор сельскохозяйственных наук, профессор, лауреат Государственной премии Республики Беларусь в области науки и техники, а также **Яков Устинович ЯРОЦКИЙ**, кандидат технических наук, директор Центра повышения квалификации руководящих работников и специалистов Комитета по сельскому хозяйству и продовольствию Могилевского облисполкома.*

**Я.Яроцкий:** — Знаете, не первый год уже думающие люди беспокоятся, размышляют на эту тему. Как насытить белорусский агросектор действительно качественным трудовым ресурсом? По мне, так это должно быть главной целью всяческих преобразований. Вдумайтесь: Англия, страна, некогда владевшая половиной мира, да и теперь вовсе не бедная, 64% (!) кадров массовых профессий имеет на рынке труда, а у нас сколько? 34% всего — это огромная проблема! Кого сегодня поставим на суперсовременную роботизированную ферму?! Да, говорится, что нужно исправлять ситуацию, но дело движется крайне медленно, всё больше на словах.

**— Что нам вообще делать, как обустроить АПК? Коллективный “мозговой штурм” нужен? Но можно ли сказать, что в преддверии выхода четырех новых указов президента состоялось действительно конструктивное обсуждение? По идее, это должно было стать основным трендом на “Белагро-2014”. Однако вот парадокс: вслух об очередном витке совершенствования аграрии старались не говорить лишний раз. Больше шептались о намечавшемся совещании у президента, где он должен был в очередной раз проконтролировать, как идет работа над подготовкой указов и другие нюансы работы специальной комиссии Мясниковича. Почему, на ваш взгляд, нет широкого обсуждения в аграрном сообществе? Предложить ведь нужно конкретные мероприятия, а не декларации о намерениях…**



Яков Устинович ЯРОЦКИЙ.



Михаил Анатольевич КАДЫРОВ.

**Я.Яроцкий:** — На недавней выставке “Белагро-2014” все это звучало, хотя и несколько приглушенно. Но знающие люди поняли, что к чему. Другое дело, у нас сейчас громко обсуждать реформы, особенно в столь важной сфере, как АПК, означает привлекать к себе внимание. А это может быть чревато! Ситуация с реформами в белорусском АПК сейчас напоминает мне комичное определение одного из героев фильма “Свадьба в Малиновке”, который пытался разобраться, что к чему, прибегая к обильным возлияниям. Однако только к концу действа уяснил-таки! Думаю, все мы поймем, что будет дальше в АПК Беларуси, только когда, образно выражаясь, услышим последний акцент из уст самого президента — на большом разговоре, в том числе когда подведут итоги работы комиссии, но и не только...

**М.Кадыров:** — Стоит оценивать меры, принимаемые со стороны государства по оздоровлению АПК, не с восторженных, а все-таки с критических позиций!

**Я.Яроцкий:** — Согласен! Понимаю и разделяю вашу тревогу: если перемены в АПК будут вестись, а новые задачи решаться в русле одного из последних постановлений Совмина — “Об ответственности руководителей за соблюдение технологических регламентов”, вышедшего несколько месяцев назад... Боюсь, на оптимистичных перспективах белорусского агросектора можно будет ставить крест!

**— Не слишком ли резкое заявление? Неужто все так плохо?!**

**М.Кадыров**: — У нас в последнее время немало выходит таких документов, которые, хорошо подумав, надо тихонько отменять, не приступая к выполнению. Иначе — только кур насмешишь. Вообще, смотрите, что произошло: да, пустили с нового года, а то и раньше, клич — даешь реформирование АПК! Создали рабочую группу во главе с премьер-министром Михаилом Мясниковичем. Мы, ученые, надеялись: вот, во время приснопамятного большого разговора в палатке на поле сельхозпредприятия “Шипяны” прозвучат наконец некие магистральные идеи, которые не только остановят спад, но и придадут ускорение отечественному агросектору. А что вышло на деле? Все свелось к постановке “диагноза” — дескать, все беды оттого, что аграрии не умеют заготавливать качественные корма, не придерживаются технологий и так далее... Был дан целый “мастер-класс” по этому вопросу, как будто бы сами сельские труженики вкупе с аграрной наукой не в состоянии разобраться в вопросах кормовой стратегии. Все это вызвало, мягко говоря, неприязнь со стороны аграрной общественности, в ее “недрах” проросли неудовлетворение, разочарование... А ведь, затевая очередное, не первое по счету, реформирование, государство заявляло о необходимости пересмотра ставок по кредитам для хозяйств, возвращения к вопросу собственности, внедрения иных принципов ценообразования! Наконец, даже шла речь о предоставлении экономической свободы для тех, кто составляет основу АПК, — сырьевых поставщиков... Ну и где все это?!

**Я.Яроцкий**: — Сложность в том, что, затрагивая проблемы агроэкономики, неминуемо сталкиваешься с необходимостью препарировать болячки всей экономической модели Беларуси...

**М.Кадыров**: — Вот именно! И что-то мне подсказывает — до президентских выборов, то есть в следующем, 2015-м, никаких реальных перемен, подчеркиваю — реальных, не бумажных, в белорусском АПК осуществлено не будет. Ничего радикального не случится. Слишком боязно: нужно идти на слом старой системы! Даже если выдать очередную, пятую по счету, директиву — сама же система ее “не запустит”.

Нужно четко понимать: нельзя изменить ситуацию в АПК, сделать его успешным, процветающим, эффективно работающим механизмом методами авторитарного, административно-командного нажима. Необходимо коренным образом перестраивать всю систему жизни в стране, в первую очередь — управленческие принципы! Если, конечно, не хотим оказаться на задворках Европы...

**Я.Яроцкий:** — Мы уже и сейчас фактически там. Но, пожалуй, еще хуже станет, когда, не дай Бог, окончательно превратимся в “исполнительный придаток” России, живущий только за счет сильной сырьевой зависимости от стратегического союзника. На мой взгляд, с усугубляющимися проблемами в белорусском АПК теряется ощутимая доля нашего суверенитета. И с этим нужно что-то делать! Никто за нас данные проблемы не решит — не стоит питать иллюзий насчет ЕАЭС, Таможенного союза и прочих нововведений. В конце концов, все равно пока каждый решает свои задачи, нет еще той скоординированности, которая, надо полагать, задумывалась...

**— Возвращаясь, Яков Устинович, к столь поразившему вас постановлению Совмина…**

**Я.Яроцкий:** — Есть технологические регламенты на технологии возделывания сельскохозяйственных культур, на выполнение тех или иных производственных процессов, то есть нормативные отраслевые документы. В них прописаны азы, требования по пахоте, уборке и так далее. И это все правильно! Но ведь в новом постановлении вводится жесточайшая ответственность, вплоть до освобождения от занимаемой должности, для того же руководителя — за нарушения технологического регламента. Это означает: тюремная решетка маячит перед каждым аграрием — менеджером среднего и низшего звена. Но ведь сегодня в силу разных причин практически невозможно обеспечить тот высокий уровень технологической дисциплины, за который ратует данное постановление. Потому как не созданы условия для столь четкой, эффективной работы...

**М.Кадыров: —** По нынешней юридической ситуации, грубо говоря, за невыполнение прогнозных показателей руководителя хозяйства можно посадить на три года. Какой тут заложен “стимул” для поднятия агроэкономики в масштабах страны, думаю, понятно...

**Я.Яроцкий:** — Да тут либо иди на новый виток приписок, либо... Людей загоняют в угол, а ради чего, если задуматься?! Такие постановления, честно говоря, маловразумительны. Не знаю, что было побудительным мотивом для принятия подобного документа, но он бессмысленный по своей сути! Реализовать его на практике нельзя, в противном случае придется пересажать львиную долю еще оставшихся в отрасли специалистов и управленцев. А кто ж работать будет?! Если относиться по-серьезному, с критических позиций, то хочется задать резонный вопрос: зачем вообще писать и принимать подобные бумаги? Чтобы еще больше деморализовать низовые кадры, которые и так тянут нелегкую лямку?.. Встали бы разработчики подобных постановлений на место инженера, руководителя хозяйства, которым всучают фактически бракованную технику (чаще отечественного производства, увы), которая даже гарантийный срок не вырабатывает. Всучают — и еще пальчиком грозят: дескать, по новому постановлению сам знаешь, что тебе будет! Одно спасение: это постановление вряд ли удастся выполнить...

**— Намекаете на то, что в многоголосии суждений о будущем белорусского АПК не слышно резонных претензий к смежникам?**

**Я.Яроцкий**: — Да, как раз это и имею в виду! Среди постановочных вопросов в широком обсуждении не поднимаются наболевшие. Например, об ответственности отечественных промышленников за судьбы урожая отчего-то молчит пресса, не вещает ТВ...

**— В ответ можно слышать упреки в адрес аграрного лобби, которое якобы только и ждет, что новых дотаций, послаблений, прочих благ от государства. А оно, изнемогая под тяжестью социальных обязательств, просто не может дальше столько вбухивать в село. Дескать, приходится отрывать средства от той же промышленности, дабы поддерживать на плаву не шибко оборотистых и рачительных колхозников…**

**Я.Яроцкий**: — Я инженер, технарь и мыслю категориями не политической или прочей целесообразности, а сугубо практически. Техника должна работать, а не простаивать! Для меня как раз технологические нормы, регламенты — закон, как, впрочем, и для моих коллег-практиков из хозяйств. Так вот, технологический регламент предполагает уборку зерновой культуры, например, ячменя, за срок не более чем 4 дня...

**М.Кадыров**: — А если затягивается процесс, то начинаются необратимые потери...

**Я.Яроцкий:** — Между тем нормативным документом установлен срок устранения недостатков в работе отечественного комбайна — 5 дней. Почему так?! А не как в США, к примеру, где подобная операция занимает максимум 24 часа. И кто в ответе за потери урожая у нас? Если только через пять дней отремонтированный новый комбайн уважаемого завода выходит в поле, где ячмень уже фактически осыпался?!

**М.Кадыров**: — Ничего нового: во все века, в трудные периоды дерут и грабят мужика. У нас же, по моему субъективному мнению, трагедия даже не в самом простом сельском люде. Он старается, выполняет свой долг по обеспечению продовольственной безопасности страны — выполняет как может. Дело у нас — в управленческой элите, не в простом мужике! Точнее в полном отсутствии в стране духовно-нравственной, национально ориентированной управленческой элиты. Здесь до обидного мало сделано для возрождения национальной самобытности, культуры! На какой же почве взращивать грамотную элиту, в том числе для АПК?! Я не уверен, что, если Россия захочет повторить у нас крымский сценарий, в наших властных кабинетах найдутся настоящие патриоты, способные постоять за независимость Беларуси.

**— Президент Лукашенко, к слову, ратует именно за сохранение Беларуси как суверенного государства, другое дело — кому претворять эту доктрину в жизнь?..**

**М.Кадыров**: — Беда в том, что пока подбор кадров для “вертикали” будет вестись не по принципам профессионализма, творческого подхода к делу, а исходя из личной преданности вышестоящему начальству — креативная управленческая элита и в АПК, и в целом в Беларуси не сформируется. Слишком много на сегодня во власть пролезло слабо образованных, хамоватых, угоднически настроенных кадров! Тупая преданность — их порой единственный плюс...

**Я.Яроцкий**: — Я бы заковычил тут слово “преданность”. Они ведь преданные только с позиций создания видимости той самой преданности, не более. Сегодня возле кормушки — значит, нужно усиленными темпами демонстрировать лояльность!

**— При такой ситуации не то что оригинальные идеи не доходят до президента, но даже объективная картина намеренно искажается, приукрашивается. Для того же есть целая армия прикормленных СМИ, которые, по выражению нового министра информации, “не четвертая власть, а партнер трех первых”?..**

**Я.Яроцкий**: — Совершенно верно! Думается, касательно села, его жизни, ведения аграрного производства многое просто остается неисследованным, замалчивается. Не буду категоричен — далек от мысли, что все делается сознательно. Просто у этих людей, видимо, такое понимание идеологической важности, целесообразности?..

**— А что лично вы считаете нужным донести до главы государства именно теперь, когда нужно принимать нелегкие решения о будущем АПК Беларуси?**

**М.Кадыров**: — Дерзну дать небольшой совет: не стоит концентрироваться на узких отраслевых моментах, вроде того, в траншею ли силос закладывать, как быть с кукурузой или почему к энному сроку не построена столько-то ферм. Нужно заниматься макроэкономикой, тщательным анализом скрытых от глаз, но определяющих все процессов! А еще важно обратить внимание на сферу идеологическую, не отдавать ее на откуп пусть и проверенным, но, быть может, уже и не таким креативным кадрам. Вообще, отсутствие внутри власти конструктивной оппозиции, недопущение даже малейшей “крамолы” — настоящая трагедия для Беларуси, по-моему...

**Я.Яроцкий**: — В принципе, сегодня спасительным мотивом в белорусском сельском хозяйстве может стать труд на себя.

**М.Кадыров**: — Есть ли оппозиционные веяния в крестьянской среде Беларуси? Нет, скорее превалируют государственники и прогосударственные подходы, настроения. Вместе с тем в отрасли, самой деревне имеется немало аполитичных, но здравомыслящих людей, специалистов, профи, понимающих всю глубину обреченности ситуации. Но они, простите за тавтологию, обречены на удел критически мыслящих одиночек...

**Я.Яроцкий**: — Как правило, эти люди достаточно квалифицированны, опытны в аграрном деле. Но они стареют, уходят с арены, а передавать-то опыт некому, по сути! Молодежь сегодня в большинстве своем может “прокрутиться” в сельском хозяйстве два года от силы. После обязательной отработки многих только и видели... Преемственность, сменяемость кадров — сегодня огромный дамоклов меч, зависший над сельским хозяйством Беларуси.

Как не дать ему упасть? Знаете, даже если допустить, что завтра село получит каким-то фантастическим образом экономическую свободу, не стоит ждать быстрых перемен. Мы в силу запущенности ситуации еще ой как долго вынуждены будем идти к более совершенному сельскому хозяйству. Для этого надобно обрести ценный опыт!

**— Нельзя сказать, что белорусское государство не видит, не понимает — что-то не то происходит. Принятие документов, подобных вышеупомянутому постановлению, — жест отчаяния? Или просто формальность, изображающая бурную деятельность?**

**Я.Яроцкий**: — Скорее второе, но... Поймите, не может быть эффективен подход ужесточения ответственности в одностороннем порядке!

**— Должна заметить, что само аграрное сообщество Беларуси порой выглядит настолько зашуганным, что даже свою точку зрения боится отстоять — хотя бы через СМИ. Лучше смолчим — здоровее будем?**

**Я.Яроцкий**: — Да, непросто вам, журналистам, работать с сельским человеком, специалистом-аграрием (*улыбается*)! Подобные зажатость, перестраховка, опасливость во многом связаны с аграрным консерватизмом. В целом это вещь неплохая, но — до известной степени. Подобные издержки аграрного консерватизма, впрочем, должны преодолеваться все-таки на более высоком уровне...

...Очень трудно искать сегодня опору каждому аграрию в отдельности. Ничего ведь не меняется в целом, одни разговоры. А про кардинальные перемены, в том числе в секторе АПК, про необходимость в корне модернизировать систему — никто ведь не заикается.

**М.Кадыров**: — Есть такая мудрая мысль: “Если нечего дать — дай свободу!” Коль не дадим нашим людям вместе с ощущением свободы глубокое чувство ответственности за себя, за дело, которому служат, ничего у нас в аграрном секторе не получится — сколько его ни реформируй “сверху”! АПК Беларуси до тех пор не будет иметь действительно хороших перспектив, пока в стране в целом будет сохраняться та же модель управления, идеологии.

**Я.Яроцкий**: — Вместо того чтобы следовать в русле уже наработанного в Европе опыта, всячески “жмут” агрария, выжимают из него последние соки. В надежде на некий мифический скачок, рывок? Похоже на то... Но прессинг, замечу, на специалиста-агрария идет как бы двойной: со стороны управленческой и со стороны технологической. Держать сегодня высокий уровень развития АПК можно только за счет общего высокого образовательного, профессионального уровня кадров и больших экономических возможностей.

Да, заявленный в АПК Беларуси курс на укрупнение, создание мощных холдингов — в чем-то резонен с точки зрения более рационального использования техники, внедрения передовых технологий. Но такая модель сработает эффективно при двух условиях: создание холдинга должно идти под крепкую команду управленцев, и, самое главное, им должно принадлежать вновь создаваемое предприятие! Иначе все это не более чем видимость эффективных шагов. Когда все принадлежит всем и никому, о настоящем хозяине речь не идет...

**— Ситуация в белорусском животноводстве наводит на серьезные размышления в этом плане, не так ли?**

**Я.Яроцкий**: — Да, здесь, я бы сказал, есть негативный опыт, который должен насторожить всех. Уменьшение количества работающих привело к логичной мысли: нужно повышать производительность труда! А как? Использовать западные технологии, применять концентрацию производства на новых МТК и так далее. Привлекли ресурсы, понастроили ферм с огромным количеством скота — от 600 до 1 тысячи голов, а есть и по 2 тысячи. Требуется под это дело теперь внедрить совершенно новый технологический уклад. Ежеминутный (!) мониторинг нужен за состоянием дел на такой сложнейшей ферме. Но этого не делается, во многих случаях вина за пробуксовку списывается на те же некачественные корма. Нет, не они виноваты! В перспективе, убежден, с этими суперфермами мы еще хлебнем горя...

**М.Кадыров:** — Из-за их строительства сегодня больше половины хозяйств страны крепко увязли в кредитной кабале. И в создании агрохолдингов, а, значит, еще одном витке укрупнения нужно видеть не только технологические преимущества, которые правильно очертил Яков Устинович. Такие слияния, выгодные в первую председателям РИКов на местах, с социальной точки зрения приносят ведь все новые и новые захиревшие деревни. И потом, когда расстояние от двух крайних точек объединенного хозяйства исчисляется десятками, а то и сотней километров — про какую управляемость, контролируемость производственного процесса можно говорить?! К слову, период укрупнения АПК БССР когда-то проводили... С последующим разукрупнением.

**— Большое спасибо за серьезный, содержательный разговор! Будем надеяться, он не останется неуслышанным…**

**Записала Инна ГАРМЕЛЬ.**
**Фото автора.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
29 ЛІПЕНЯ 2014 г.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Як пакараць?

**_У адным з мінулых нумароў “Народнай Волі” ўзгадвалася, што пераслед за крытыку — дзеянні, якія могуць падпасці пад Крымінальны кодэкс. Думаю, у нашай краіне шмат хто сутыкаўся з такім пераследам. Але мала хто ведае, як бараніцца. Таму прашу вас больш падрабязна расказаць пра юрыдычныя аспекты гэтай праблемы._**

**Ганна Чайчыц,**
**г.Мінск.**

Артыкул 197 Крымінальнага кодэкса “Пераслед грамадзян за крытыку” выглядае так:

*“1. Уціск службовай асобай праў, свабод і законных інтарэсаў грамадзяніна за накіраванне ім у дзяржаўныя органы альбо грамадскія аб’яднанні прапаноў, заяў ці скаргаў, альбо — за крытыку, што ў іх утрымліваецца, альбо за выступленні з крытыкай у іншай форме (пераслед грамадзян за крытыку), —*

*караюцца штрафам, ці пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады альбо займацца вызначанай дзейнасцю, ці папраўчымі працамі на тэрмін да двух гадоў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да трох гадоў.*

*2. Тыя ж дзеянні, якія пацягнулі нанясенне істотнага ўрону правам, свабодам і законным інтарэсам грамадзяніна, —*

*караюцца абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў, альбо пазбаўленнем волі на тэрмін да чатырох гадоў з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады ці займацца вызначанай дзейнасцю, альбо без пазбаўлення.*

Як тлумачаць юрысты, “уціск правоў”, які падпадае пад гэты артыкул, — гэта звальненне з працы ці паніжэнне ў пасадзе, перавод на пасаду з меншым заробкам і іншае. Зразумела, што сувязь паміж крытыкай і такімі дзеяннямі павінна быць даказанай. Менавіта гэта самае складанае — даказаць на фактах, а не на эмоцыях і домыслах наўмысны пераслед, помсту за крытыку.

ГЛУБИНКА

## Показуха

Пишу в свою любимую “Народную Волю”, чтобы поделиться душевной болью. Живу я с некоторых пор не в поселке Коммунар, а в агрогородке. Жителей заставляют в паспорте менять место регистрации с поселка на агрогородок. А соответствует ли наш населенный пункт статусу агрогородка, если, например, в нем уже около десяти лет не работает Дворец культуры, который всё ремонтируют? Нет бани, старое здание снесли более десяти лет назад, а новое и не собираются строить, несмотря на многочисленные жалобы жителей. А теперь закрыли и кафе, в котором желающие могли отметить юбилеи и другие знаменательные даты. Многие жители пользовались услугами кафе, когда надо было заказать и поминальный стол по усопшему.

Все это вызывает грустные мысли и никак не вяжется с бравурными картинками с телеэкрана и уверениями главы государства, что живем мы весело, а завтра будет веселей, что у нас все делается для человека и во имя человека. Хватит нас кормить этими душещипательными лозунгами о том, как у нас все хорошо! Мы уже сыты ими по горло.

Каждый правитель, как приходит к власти, начинает экспериментировать, выдавать желаемое за действительное. Ведь мы уже должны жить при коммунизме, в свое время изучали Моральный кодекс строителя коммунизма. А теперь вот агрогородки должны приблизить светлое будущее, а то, что они губят деревню, в которой остались только старики, доживающие свой век в основном в одиночестве, похоже, власти предержащие не волнует.

Высказала вам свою боль, и на душе легче стало.

**Тамара Михайловна**
**ЕЗЕРСКАЯ.**

*пос.Коммунар Буда-Кошелевского района.*

**P.S.** Выражаю сердечную благодарность редакции газеты за правдивые, своевременные и содержательные публикации. Особенно радует, что с каждым номером газета становится все интереснее, она как луч света в мире лжи и иллюзий. Крепкого вам здоровья и удачи во всех делах! С глубоким уважением и признательностью — ваша постоянная читательница.

SOS!

# Остановите игроманов!




Минск — это наша гордость! Город современный, с красивыми, широкими улицами, зелеными насаждениями, ухоженный, чистый. Радует глаз и архитектура. Все гости, кто приезжает в Минск, подмечают достоинство и красоту сразу, делятся с нами своими впечатлениями. Все это хорошо, но гости замечают и другое.

В нашем городе огромное количество игорных клубов и казино. Какую пользу они приносят?

Один плюс есть — они исправно пополняют казну нашего государства. Однако каждый здравомыслящий человек задумывается, откуда берутся эти источники пополнения бюджета, почему эти игорные клубы растут численно как грибы после дождя? На некоторых улицах этих клубов не единицы, а десятки. Взять, к примеру, улицы Притыцкого, Богдановича, Сурганова и т.д. Почему наше правительство и руководство города Минска так заботится и печется о них? Ответ ясен — доходы в бюджет, а то, что происходит с игроками, их семьями, детьми и т.д., их не волнует.

В США, на родине покерных сайтов, сетевой покер разрешен только в нескольких штатах, а в России и в Украине он повсеместно запрещен, хотя налоговые поступления от игр приносят значительную прибавку в бюджет. Известная истина, что в многих странах ведется настоящая борьба с азартными играми. В Советском Союзе азартные игры запрещались повсеместно. Не оставалась в стороне и церковь. Она категорически выступала против них. Так почему же к азартным играм неоднозначное отношение в разных странах?

Чтобы ответить на этот вопрос, надо знать завсегдатаев этих клубов, четко видеть зло, которое получают игроманы и их семьи. Посетителями этих клубов являются подростки, неоперившаяся молодежь, молодые мужчины, любители острых ощущений, которые проигрывают в азарте зарплату, стипендии, не оставляя ни копейки для семейного бюджета, для собственного пропитания, для помощи престарелым или больным родителям. Но азарт делает свое губительное дело. Проиграв свои сбережения или зарплату, они отправляются в коммерческие банки и оформляют кредиты под баснословные проценты. Эти услуги банками оказываются в считанные минуты, безо всяких проверок в необходимости кредита. Получивший кредит опять отправляется в игорный клуб с надеждой на выигрыш. Проиграв, он отправляется в следующий банк за новым кредитом. И так продолжается до тех пор, пока игроман не запутывается совсем.

Становятся кредитополучателями в нескольких банках. Наступает время возвращать долги, а возвращать их нечем. Тогда некоторых выручают родители, родственники. Они продают все, вплоть до квартир, и уплачивают долги за своих деток. Многие игроманы в данных случаях становятся на путь нарушения законов — начинают воровать, грабить и совершать другие, более тяжкие, правонарушения. Результат один — тюрьма, семейные раздоры, обездоленные дети, родители и т.д. Вот такая цена роста налоговых поступлений от игорного бизнеса.

Я был свидетелем того, как родители, жены игроманов обращались в “Дельтабанк”, “Хоум кредит банк”, “Идеабанк”, “Газпромбанк” с просьбой не выдавать кредиты их близким (детям, мужьям), но ни один из вышеперечисленных банков не отнесся с пониманием к этому вопросу, а в “Хоум кредит банке” ответили, что они будут вести разговор с кредитополучателем, а не с его родственниками. Вот так, сознательно или бессознательно, в нашем обществе создаются условия для семейных трагедий и пополняются ряды преступников. Наш президент неоднократно говорил, что мы строим социально ориентированное общество, в котором человек является главной фигурой. Если это действительно так, то необходимо безотлагательно закрыть эти источники возникновения семейных трагедий и преступлений и вместо них открыть общедоступные заведения, развивающие интеллект молодых людей, повышающий умственные способности и способствующие здоровому образу жизни.

Игроманы, пьяницы, наркоманы не укрепляют наше государство, а приносят вред и горе не только родным и близким, но и всему нашему обществу. В этом случае лучший совет — слова известного греческого философа Аристотеля:

*Деньги потерял — ничего не потерял,*
*Время потерял — много потерял,*
*Совесть потерял — все потерял.*

Пора открыть глаза на эту проблему и закрыть раз и навсегда эти злачные заведения. Для этого нет необходимости проводить референдумы, а руководству страны нужно проявить политическую волю. И вспомнить не о деньгах, а о людях!

**Василий РАКОВЕЦ,**
**житель Минска.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## На чым жа цяпер паедзе прэм’ер?

**На адкрыцці новай станцыі метрапалітэна “Малінаўка” прэм’ер-міністр Беларусі атрымаў падарунак — месячны праязны білет на метро. Прэм’ер паабяцаў ім скарыстацца.**

*Душа свяцілася ў прэм’ера,*
*Спявала ўсё яго нутро,*
*Як расчынілі ўрэшце дзверы*
*На новай станцыі метро.*
*І ведае любы і ўсякі,*
*Што раскашэліўся бюджэт.*
*Дык падарылі ў знак падзякі*
*Прэм’еру праязны білет.*
*А час мінуўся некаторы*
*(Ён, як цягнік, ляціць цяпер!),*
*І неяк, будучы ў гуморы,*
*Згадаў пра свой білет прэм’ер.*
*І каб дарэмна не прапала,*
*Так мовіць бы, яго дабро,*
*Прэм’ер — ні многа і ні мала —*
*Рашыў праехаць у метро.*
*Нічога не змяніў на твары,*
*Калі адправіўся туды:*
*Не пачапіў ён акуляры,*
*Яму не трэба барады.*
*Хоць пасажыры ўсе вагона,*
*Дзе сеў на лаўку кіраўнік,*
*Распазнавалі твар ягоны,*
*Але ажыятаж не ўзнік.*
*Усе дзівіліся без меры*
*І пазіралі спадцішка*
*На недасяжнага прэм’ера,*
*Які ў вагоне цягніка.*
*Ніхто не браў яго за грудзі*
*І не выказваў пахвалы:*
*У нас жа “правільныя” людзі —*
*Не стрэліць хтосьці з-пад палы.*
*І толькі дзядзька нехлямяжы*
*Глядзеў у твар хвіліны тры,*
*А потым падышоў і кажа:*
*— Ну дык здаровы быў, стары!*
*Дазволь задаць адно пытанне:*
*Ці не цябе я з даўніх пор*
*Заўсёды бачу на экране?*
*Ты, мусібыць, які акцёр...*
*Сумеўся, не сказаў ні слова*
*І вочы апусціў прэм’ер.*
*А хтосьці ўзяў своечасова*
*Нахабу-дзядзьку за каўнер,*
*Сказаўшы злосна:*
*— Ты сягоння*
*Ці не нажраўся, памяло?*
*А больш з прэм’ерам у вагоне*
*Эксцэсаў нейкіх не было.*
*Ды па сталіцы неўзабаве*
*Вужакі-чуткі папаўзлі:*
*Таго, хто ў нас другі ў дзяржаве,*
*Прэм’ера,*
*Бачылі, калі*
*Па лесвіцы ў метро сыходзіў,*
*Ступіўшы потым у вагон.*
*Дык гэта ж, людцы, жах дый годзе!*
*На што нам намякае ён?*
*Чаму ў метро, дзе люд — ракою,*
*Наш лідар змусіўся пайсці?*
*Хіба ж калі было такое*
*У нашым сённяшнім жыцці?*
*Ці ж выглядае ўсё тыпова?*
*Карціна іншая была:*
*“Мільгалка”, “мерседэс”, ахова —*
*Картэж імчыцца, як страла.*
*Затым другія чуткі-плёткі*
*Пранесліся па грамадзе.*
*— На рынку, — гаманілі цёткі, —*
*Стаім, а тут прэм’ер ідзе.*
*З напругай валачэ авоські,*
*А ў іх — капуста і гуркі.*
*Ну акурат як дзядзька з вёскі —*
*Увесь замызганы такі...*
*Маглі б пра чутку і забыцца,*
*Але яшчэ адна паўзе:*
*У паліклініцы як быццам*
*Прэм’ера бачылі ў чарзе.*
*І чуткі іншыя, як хмары,*
*Па-над сталіцай папаўзлі:*
*Ён у абменніку даляры*
*Купляў за нашыя рублі;*
*Прэм’ера ўчора хтосьці бачыў*
*(Зусім не пахне тут маной!),*
*Як сахаром на ўласнай дачы*
*У дзве рукі варочаў гной.*
*Якая ж з гэтага выснова*
*Напрошваецца для людзей?*
*У нас зусім усё хрэнова,*
*Краіна, мусіць, у бядзе,*
*І будзем грызці мы скарынку*
*Сваю апошнюю цяпер,*
*Калі ў падземцы і на рынку*
*Ужо туляецца прэм’ер.*
*А пацвярджэннем-аргументам*
*Таго, што нашы справы швах,*
*Быў слух: самога прэзідэнта*
*Убачыў нехта ў “Жыгулях”...*
*Ужо ў грамадстве спее драма:*
*Яшчэ чуць-чуць, яшчэ крыху,*
*І штурмавацьмуць людзі крамы,*
*Паб’юць абменнікі ў труху...*

* * *

*Зусім да ўрада знікне вера*
*(І вэрхал здарыцца такі!),*
*Калі на ровары прэм’ера*
*Убачаць раптам мінчукі.*

ПРОБЛЕМА!

## Они что, имеют право избивать до крови человека?

Это случилось 10 июня в торговом центре в 16 часов 25 минут (чтобы не было к газете судебного иска, специально не называю, в каком именно торговом центре, хотя для редакции я дал точный адрес). Продавщица, у которой я получал товар, вдруг посмотрела вправо и с ноткой ужаса произнесла: “Ну, вот опять кого-то тащат”. Оглянувшись, я увидел двух молодых людей, бегущих легкой рысцой и толкающих впереди себя третьего, примерно такого же возраста. Бросилось в глаза выражение крайней обреченности на лице последнего, тогда как лица толкающих были сурово сосредоточенными. Все трое повернули налево и скрылись в подсобном помещении. “Сейчас будут бить, — сказала продавщица. На ее лице был плохо скрываемый ужас. — Я как-то заглянула к ним в комнату, так там всё было в крови”.

Ситуация была настолько неожиданной, что я не успел ее полностью осознать, схватил покупку и пошел к машине. Через минут двадцать я все-таки позвонил в милицию и сообщил об увиденном. Уже где-то через минуту мне позвонили из милиции, задали несколько вопросов. А потом мужской голос произнес: “Ну, это ваше предположение, что били. Если будет заявление от потерпевшего, будем разбираться”. Я возразил, что это не предположение, я видел, как тащили человека, слышал звуки ударов. Ответа не последовало. Через минут пять мне вновь позвонили из милиции, и на этот раз крайне вежливый мужской голос пообещал разобраться. Поскольку больше ко мне никто не обращался, я понял, что разбирательство, если оно и было, закончилось безрезультатно.

Сообщения о том, как охрана торговых центров избивает и даже калечит людей, встречаются, к сожалению, нередко. Милиция проводит длительные проверки, но все они заканчиваются стандартным заключением о непричастности или невиновности охранников. Оказывается, все потерпевшие, по примеру печально известной унтер-офицерской вдовы, сами себя избивали.

Но ведь если правоохранительные органы будут и дальше закрывать глаза на действия охранников, то это может только способствовать превращению отделов охраны в крупных торговых центрах в криминальные структуры. Тем более что владельцы торговых центров в них заинтересованы.

Никакие милицейские проверки, как показывает жизнь, здесь не помогут. Необходимо создать такие условия, при которых эти преступления станут практически невозможны. В законы и положения, регламентирующие работу охранных структур, следует внести дополнения, строго запрещающие охранникам доставлять задержанных в так называемые подсобные помещения. Никаких следственных действий они проводить не вправе. Единственное, что они могут сделать, — это задержать воришку и передать его милиции. Все время до прибытия милиции задержанный должен находиться в открытом месте на виду у людей. Доставку задержанного в закрытое помещение следует трактовать как уголовное преступление. Такие небольшие дополнения реализовать будет несложно. Надо только следить за их выполнением. Это избавило бы покупателей, в том числе и тех, которые приходят в супермаркеты с детьми, от дикого зрелища, а заодно удержало бы быстрых на расправу охранников от противоправных действий.

**Василий ЛЕВШИН,**
**пенсионер.**

*Минск.*

АБМЯРКУЕМ!

# Парадоксы

У 1995 годзе прайшоў усенародны рэферэндум, які прыраўняў статус рускай мовы да статусу беларускай. Адпаведныя змены былі ўнесены ў Канстытуцыю і Закон аб мовах.

І раптам усё тое, што магло быць двухмоўным (напрыклад, публікаванне прававых актаў, якое нават паводле першапачатковага моўнага закона абавязкова адбывалася на дзвюх мовах), стала амаль цалкам рускамоўным. А ва ўсіх беларускамоўных сферах (СМІ, культура) было ўведзена “двухмоўе”. Выкладанне гісторыі Беларусі перавялі на рускую. Ужо нават да тапонімаў дабраліся...

Усе скаргі, аж да Канстытуцыйнага суда, заканчваюцца аднолькава і безвынікова: “У нас дзве дзяржаўныя мовы, дзяржава мае права выбіраць...” І нічога быццам не зробіш: сапраўды, фармальная роўнасць замацавана ў законе. Але ёсць адна нестыкоўка.



Рожновскому А.В.
anonim1937@gmail.com

14.04.2014 № 04/М/2347

Уважаемый Аркадий Владимирович!

Сообщаем, что Ваше электронное обращение, в котором Вы просите Совет Республики Национального собрания Республики Беларусь ответить, почему «надписи на гербе и гимн выполнены именно и только на белорусском, на законодательном уровне осуществить официальный перевод гербовой надписи и гимна на русский язык либо ... в Конституционный Суд предложение о проверке ... й статьи 3, части первой статьи 9 Закона ...

... щении ... Суд Республики Беларусь о соответствии частей ... четвертой статьи 3, части первой статьи 9 Закона Республики Беларусь «О государственных символах Республики Беларусь», приложений 1, 2 и 3 к данному Закону Конституции и решению референдума от 14 мая 1995 года.

Председатель
Постоянной комиссии Л.Ф.Мороз

28.07.14 PSR30346

Ад 1991 года ў нас не было афіцыйнага тэксту дзяржаўнага гімна, была толькі музыка. Новы тэкст быў зацверджаны ў 2002 годзе. З 2007 года падчас акцыі “Заспяваем гімн разам” на Дзень Рэспублікі яго спяваюць тысячы нашых грамадзян.

Але ж гімн у нас на беларускай мове! І рускамоўнага варыянта няма! Куды ж глядзяць пабornікі законнасці і двухмоўя?

Справа ў тым, што ва ўсіх краінах, дзе дзяржаўны палілінгвізм — натуральная з’ява, дзяржаўныя гімны існуюць ва ўсіх моўных рэдакцыях. Швейцарыя, Канада, Бельгія, Фінляндыя; некаторыя суб’екты Расійскай Федэрацыі: Татарстан, Башкартастан, Мардовія... Нават нягеглае Прыднястроўе мае гімн на рускай, украінскай і малдаўскай мовах! Па вялікім рахунку тое ж тычыцца і герба: “Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!” на гербе БССР заўсёды выконвалася на ўсіх дзяржаўных мовах, у перыяд 1927—1938 гг. — нават на чатырох!

Калі ж у афіцыйна шматмоўнай краіне дзяржаўны гімн адзіны, значыць, нейкая мова мае асаблівы статус: люксембургская ў Люксембургу — “нацыянальная”, ірландская ў Ірландыі — “дзяржаўная і першая афіцыйная”, казахская ў Казахстане — дзяржаўная, руская — выкарыстоўваецца ў якасці афіцыйнай. Такое становішча дазваляе дзяржаве браць пэўную мову пад сваю апеку. У нас жа нічога такога няма.

Атрымліваецца, што, як гэта ні дзіўна гучыць, тэкст нашага гімна не адпавядае Канстытуцыі. Але менавіта гімн паказвае ўсю штучнасць нашага двухмоўя, крывадушнасць тых, хто кажа, што “русский язык не российский, он и наш родной”.

Скарыстаўшы ўсе юрыдычныя аргументы і прывёўшы ў прыклад шэраг краін свету, я вырашыў паставіць пытанне рубам і накіраваў зварот у Савет Рэспублікі з просьбай звярнуцца ў Канстытуцыйны суд, каб прызнаць Дзяржаўны гімн і герб не адпавядаючым Канстытуцыі, — або ажыццявіць іх афіцыйны пераклад на рускую мову. Зразумела, што задавальненне гэтай просьбы пасадзіла бы ўлады ў глыбокую лужыну.

У адказ атрымаў звычайную адпіску: маўляў, тэкст гімна — частка закона, які дзяржава мае права публікаваць на адной з дзвюх моў. Зразумела, такі адказ некарэктны, бо сам закон чамусьці напісаны якраз па-руску, але з яго вынікае адна выснова: беларускамоўныя дзяржаўныя сімвалы мяняцца не будуць.

Дык, можа, час прызнаць беларускую мову прыярытэтнай? І вынесці адпаведнае пытанне на меркаваны ўладамі рэферэндум?

**Аркадзь РАЖНОЎСКІ,**
**студэнт.**

*Мінск.*

БОЛЬ

# Адыгралі фанфары...

Вось і адышло ў гісторыю 70-годдзе вызвалення Беларусі. А горкі прысмак застаўся.

У сярэдзіне чэрвеня патэлефанавала сяброўка дзяцінства і радасна паведаміла пра Указ Прэзідэнта ад 29 студзеня за №54 “Об оказании материальной помощи в связи с 70-летием освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков”. Праз колькі дзён яна прынесла ўказ. На сямейнай нарадзе вырашылі напісаць заявы. Ведалі, што з гэтага нічога не атрымаецца. Але ж...

У жніўні 1942 года мае бацькі Рыгор Дзяменцьевіч і Надзея Іванаўна Пастаялкіны былі расстраляны разам з іншымі аднавяскоўцамі за сувязь з партызанамі. Іх імёны занесены ў кнігу “Памяць” па Лёзненскім раёне Віцебскай вобласці (с.216). У той дзень у бабулі (па бацьку) загінулі пяцёра. У другой бабулі (па маці) з чатырох дзяцей у канцы вайны застаўся адзін сын, астатнія загінулі: хто ў партызанах, хто на фронце. З двух бакоў засталіся сіротамі дзевяць дзяцей. Сёння нас трое.

Памяць вяртае ў тыя страшэнныя дні. Усіх, каго не пастралялі, дзяцей, старых, загналі ў стары панскі кароўнік, абклалі снапамі, каб спаліць. Паратунак прыйшоў ад партызан-разведчыкаў, якія абстралялі карнікаў. Вёску спалілі.

Чытаю ўказ. Каму ж належыць атрымаць дапамогу? Цытую па арыгінале:

“Членам семей военнослужащих, партизан и подпольщиков, погибших (умерших) в годы Великой Отечественной войны (родителям, супруге (супругу), не вступившей (не вступившему) в новый брак, детям (в том числе усыновленным) и другим иждивенцам погибшего (умершего), **получающим** пенсию по случаю потери кормильца)”.

Скажыце, калі ласка: дзе тыя, хто атрымлівае гэтую пенсію? Нам, сіротам вайны, ужо па 70 і больш. Я сослепу прачытала замест “получающим” — “получавшим”.

У майго мужа бацька Валянцін Нікадзімавіч Шлегель знік без вестак. Напісалі мы заявы, падрабязна апісалі, што прынесла нам вайна. Занеслі заявы ў Ленінскі аддзел сацыяльнай абароны г.Мінска. Вельмі ўдзячна работнікам, якія чыталі нашы заявы, за спачуванне, цеплыню, увагу, якую мы адчувалі. Заявы нашы прынялі. І адказалі. (Адказы прыкладваю.)

У стрыечнага брата Іосіфа Міхайлавіча Спірыдзенкі бацька быў мабілізаваны ў першыя дні вайны. Засталася цяжарная жонка. Дзеці з’явіліся на свет у самыя жахлівыя дні вайны. Бацька знік без вестак. У Лёзненскім аддзеле сацыяльнай абароны заяву не прынялі. Брату з’едліва сказалі: “Ты не інвалід”.

У дзяцінстве мы з дзіцячай зайздрасцю глядзелі на тых, у каго былі родныя. Нам не вядомы былі нават словы “маці”, “тата”. Пасля вайны ўсім было цяжка. Разам з дарослымі мы таксама пакутавалі. Краіну адбудоўвалі ўдовы, параненыя, знясіленыя. З дзіцячых дамоў 14—15-гадовых падлеткаў адпраўлялі ў ФЗН на Урал, Сібір. Многія там і загінулі.

І вось 70-годдзе вызвалення Беларусі. Нашто быў выдадзены гэты ўказ? У нашай сацыяльна арыентаванай дзяржавы няма грошай на старых, на паміраючых дзяцей, на тое, каб зрабіць нам, сіротам ВАВ, маленькі падарунак у памяць аб нашых загінуўшых бацьках. Грошай няма! Грошы ёсць на маёнткі ў Драздах, на новую бальніцу для чыноўнікаў, на пенсіі для дэпутатаў і расійскіх вайскоўцаў, на новую рэзідэнцыю, на хакейны клуб прэзідэнта. Колькі каштаваў парад? Колькі грошай (нашых грошай) з’елі расійскія ўдзельнікі парада? Каму мы паказвалі сваю моц? А можа, гэта ненажэрная Расія нам паказвала? Не толькі ж рускія вызвалялі Беларусь, але на парадзе не было ні казахаў, ні грузін, ні прадстаўнікоў іншых дзяржаў. Чаму? Колькі грошай ідзе на КДБ, спецназ? Усё пытанні, пытанні... Толькі адказу няма. Не абвінавачвайце мяне, што хачу адарваць нейкі кавалак ад дзяржавы. Пры маёй настаўніцкай пенсіі грошы не пашкодзілі б. Ёсць у нашай сям’і задумка. Мы хацелі б на месцы, дзе загінулі мае бацькі і аднавяскоўцы, паставіць крыж. Грошы пенсіянерам патрэбны, кожны дзень усё даражэе: ежа, лекі, жыллёвыя паслугі. Была танная прыватызацыя. Але і тады мы не маглі яе здзейсніць. А цяпер нам трэба плаціць шалёныя грошы. З чаго? З тых жабрацкіх пенсій, якія з’ядае кожны дзень інфляцыя.

Ці не пара нам, сіротам ВАВ, стварыць сваю арганізацыю, якая нагадвала б тым, у каго ўлада, што мы яшчэ жывыя, хоць нас засталося зусім мала?

**З павагай —**

**Яўгенія Рыгораўна**
**ШЛЕГЕЛЬ.**

*Мінск.*

**P.S.** *Дзякуй табе, мая газета, што ты ёсць у нас. Здароўя ўсяму калектыву! Веру вам, чытаю кожны нумар, пераказваю тым, хто не чытае, карыстаюся газетай па прынцыпе: “Прачытаў — аддай іншаму”.*

КОРОТКО

## США показали сделанные со спутника фото обстрелов Украины из РФ

Госдепартамент США в понедельник распространил сделанные со спутника фотографии, иллюстрирующие, как утверждают американские официальные лица, факт обстрелов украинских войск с территории России.

Снимки с низким разрешением были сделаны с 21 по 26 июля и предоставлены директором национальной разведки, координирующим все разведывательные структуры США.

Как заявили в Госдепартаменте, на фотографиях видны ракетные системы залпового огня и самоходные артиллерийские орудия с российской стороны границы и воронки от взрывов снарядов в расположении украинских войск с украинской стороны.

## Удар молнии: один убит, восемь ранены

Один человек погиб и восемь пострадали от удара молнии на пляже "Венеция" в Лос-Анджелесе, сообщили в местной полиции. Удары молнии вызвали панику на побережье.

## Конгрессмены предлагают признать Украину главным союзником США вне НАТО

На рассмотрение палаты представителей Конгресса США внесен законопроект о признании Украины главным союзником США вне НАТО. Кроме того, документ предлагает разрешить предоставление Украине прямой военной помощи.

## Суд в Гааге обязал Россию выплатить 50 миллиардов долларов акционерам ЮКОСа

Третейский суд в Гааге признал Россию виновной в незаконном присвоении активов нефтяной компании ЮКОС и нарушении международной Энергетической хартии. Суд обязал государство выплатить бывшим акционерам компании 50 миллиардов долларов. Об этом пишет "Коммерсант".

Россия также должна оплатить судебные издержки в размере 65 миллионов долларов. Российское государство обязано выплатить компенсацию истцам до 15 января 2015 года.

НА СВАЕ ВОЧЫ

# «Вы бачылі забітых на здымках, а я ведаў гэтых людзей...»

*Сёння ўжо нікога не трэба пераконваць, што ў суседняй з намі Украіне ідзе сапраўдная вайна, адметнай рысай якой стала наяўнасць яшчэ адной вайны — інфармацыйнай. Расійскія каналы, якія транслююцца ў Беларусі, спрабуюць пераканаць грамадскасць у тым, што адбываецца "народны" супраціў дзяржаўнай "кіеўскай" уладзе. Пры гэтым прапагандысты ніколі не даюць гледачам магчымасці паслухаць другі бок. У кожным выпуску навін тыя грамадзяне Украіны, якія выступаюць супраць акупацыі Крыма і паўднёва-ўсходняй часткі сваёй дзяржавы, называюцца "фашыстамі" і "бандэраўцамі", а тыя, якія сталі дапамагаць дыверсантам, захопліваць адміністрацыйныя будынкі, — "народнымі апалчэнцамі".*

*Як разабрацца, дзе праўда, а дзе прапаганда? Мы вырашылі даць слова таму, хто сам з'яўляецца сведкам і ахвярай усіх падзей.*

***Яўген Панамарэнка** — жыхар Луганска. Яму каля сарака, ён свядома не ўцякаў ад вайны, застаецца ў сваім горадзе ў самым эпіцэнтры канфлікту.*

**— Украінская тэма застаецца ў свеце тэмай нумар адзін. Асабліва пасля таго, як быў збіты пасажырскі самалёт. Жарсці кіпяць, усе шукаюць вінаватага. А што ў вас кажуць на гэты конт?**

— Пра збіты самалёт, незалежна ад пазіцыі наконт нашых падзей, большасць кажа, што адказнасць павінна несці Расія. Нават калі выпадкова збілі, нават калі думалі, што гэта ваенны самалёт — не было б тут баявых дзеянняў, такога не адбылося б. Ці маглі гэта зрабіць простыя рабочыя-апалчэнцы без адпаведнай вайсковай падрыхтоўкі? А супрацьракетны комплекс "Бук" — яго пад лаўкай знайшлі? А наконт таго, як тут кіпяць жарсці, магу сказаць, што ўжо ніхто ні з кім не спрачаецца. Я, напрыклад, вырашыў для сябе, што няма ніякага сэнсу нешта тлумачыць тым, у каго няма Радзімы. Не пераканаеш.

**— Гэтаму ёсць тлумачэнне, бо Данбас — спецыфічны рэгіён. Некалі яго называлі "ўсесаюзнай качагаркай". Людзі самых розных нацыянальнасцяў ехалі за доўгім рублём. Нехта заставаўся, нехта з'язджаў. Асабіста мне ў Данбасе кідаецца ў вочы адбітак часовасці на ўсім.**

— Так, прыязджалі ж з усяго СССР. Прадпрыемстваў розных шмат. Усе тутэйшыя людзі інтэрнацыяналісты і нашчадкі інтэрнацыяналістаў. Луганская вобласць цалкам з прыезджага народа складаецца. Мясцовага насельніцтва тут амаль не было. Стэп... Часта бывала такое, што калі карміцель загінуў у шахце, то сям'я збіралася і ехала дадому. А дом — у каго дзе. Большасць, канешне, з Расіі.

**— Ці былі заклікі ў дачыненні да этнічных рускіх, каб з'язджалі, калі хочуць жыць у Расіі, а не спрыялі таму, каб тут была яе тэрыторыя?**

— Хто хацеў, той ужо з'ехаў. Узяць той жа Красны Луч — горад абласнога падпарадкавання. Там шмат заводаў, і калі яны перасталі працаваць, то тыя рабочыя, якія не спіліся, з'ехалі ў Расію. Засталіся люмпены-алкаголікі. Ім заплацілі па 100 грывень, вось яны і хадзілі, як на працу, на тыя мітынгі. Я маю сябра родам з Тамбова, там, у Расіі, усе ягоныя сваякі. Але тут ён ажаніўся, мае двое дзяцей. Дык ён на мітынгі не хадзіў. Займае праўкраінскую пазіцыю і кажа, што тут яго радзіма. Калі ёсць адчуванне, што гэтая зямля стала Радзімай і для цябе, і для тваіх дзяцей, то людзі не так проста падыходзяць да пытання, у якой краіне жыць: сёння — у адной, а заўтра — у іншай.

**— Але ці праўда гэта — пра 100 грывень? Адкуль вы ведаеце?**



— А доўга хаваць такую інфармацыю немагчыма. Хто суседу прагаварыўся, хто — сябрам. Хаця не ўсе хадзілі за грыўнямі, былі і ідэйныя. Але і тыя і тыя нарэшце зразумелі, што гэтая вайна рыхтавалася задоўга. Проста ў пэўны час адпаведныя "таварышы" паклікалі куды трэба і заплацілі каму трэба. Усё прадумалі. Нейкіх жанчын з азызлымі тварамі на аўтобусах прывезлі з усёй вобласці. Калі захоплівалі будынак абласной адміністрацыі і будынак міліцыі, то людзі з аўтаматамі выстаўлялі тых жанчын наперадзе.

**— За час баявых дзеянняў настроі змяніліся?**

— На нашай вуліцы 62 дамы, і з іх толькі два чалавекі займалі праўкраінскую пазіцыю. Астатнія (калі Расія захапіла Крым) нават не хавалі свайго захаплення такім развіццём падзей. Потым яны ж хадзілі на рэферэндум. Але прайшоў час, і шмат хто пачаў разумець, што Расіі наш праблемны Данбас не патрэбны. Ёй патрэбна зона замарожанага канфлікту. Адзін і той жа сцэнарый, як з Абхазіяй, Паўднёвай Асеціяй, Прыднястроўем. Для таго, каб прасцей было дабірацца да Крыма, Расіі патрэбна і Адэса, і тая ж Мікалаеўская вобласць. Расійцы спрабавалі адрэзаць восем украінскіх абласцей, але атрымалі адпор, хлебам-соллю іх, шчыра скажу, не сустракалі.

У нас ужо ўсе зразумелі, што ідзе сапраўдная вайна. Праз Луганск ідуць калоны расійскай ваеннай тэхнікі з надпісам "ЛНР", страляюць з установак "Град". Еду ў краму і бачу калону танкаў, якая рухаецца ў бок Алчэўска. Няўжо вы думаеце, што апалчэнцы на агародах тыя танкі адкопвалі? Ды і ідуць з расійскімі сцягамі. На некаторых напісана "На Кіеў!". Праз Луганскую вобласць, праз Сухадольск, праз Маладагвардзейск без праблем заходзіць расійская ваенная тэхніка. Гэта не БТРы ці грузавікі з аўтаматамі, як было напачатку. Цяпер гэта танкі, прычым калі напачатку гэта былі нейкія спісаныя машыны, то цяпер найноўшыя Т-90 — самаходныя ўстаноўкі (недалёка ад майго дома такія стаяць). Што б там ні казалі, але мы тут бачым і адчуваем, як спрацоўваюць снарады на "Градах", як ляцяць, падаюць, узрываюцца. Вось нядаўна ў рысе горада, у мікрараёнах "Мірны", "Альхоўскі", "Сцяпны", "Другчармет" у выніку абстрэлу забілі 17 чалавек грамадзянскага насельніцтва, больш за 30 паранілі. Разбамбілі школы, дзіцячыя садкі, жылыя дамы. Вы, напэўна, бачылі тыя здымкі... А я ведаю гэтых забітых людзей. Вахцёрка з 51-й школы ў Паўднёвым квартале... гэта яна на фота ляжыць з разбітай галавой. Дзеці гінуць, а колькі параненых!.. Прычым колькі насамрэч людзей загінула, дагэтуль дакладна не вядома.

**— Напярэдадні бамбёжкі гучыць нейкае папярэджанне кшталту паветранай трывогі, каб людзі маглі схавацца?**

— Ніколі не бывае. Усе размовы, што ўкраінская армія бамбіць дамы, — гэта лухта. Расійскія СМІ падаюць гэта гледачам, як абстрэлы ўкраінскай арміяй, але мы ж тут усё чуем і бачым, хто адкуль страляе. Тут ёсць закінутыя заводы, ёсць яры, дзе стаіць расійская тэхніка. Танкі ездзяць уначы па горадзе. Дзе захочуць, там і прыпыняюцца. Тыя ж "Грады", тыя ж машыны з замаскіраванымі мінамётамі адстраляюцца — і паехалі далей.

— **Якая мэта такой страляніны?**

— Яны страляюць па пазіцыях украінскай арміі. Асабліва дасталася пасёлку Металіст. Там батальён "Айдар", які вызваліў пасёлак Шчасце, ён для іх — што чырвонае для быка. Увесь час страляюць па аэрапорце Луганска, бо гэта стратэгічная зона. Там былі луганскія дэсантнікі, дык чым толькі па іх не білі! Усё, што мелі, кінулі супраць дэсантнікаў. Праўда, некалькі дзён таму іх удалося разблакіраваць. Калі ж вызвалілі Раскошнае і Белае (а гэта пад самым Луганскам), то мы ўсе абрадаваліся, здаваліся: вось яшчэ пару соцень метраў — і ўкраінская армія ўвойдзе ў горад. Інтэрнэт узарваўся, народ трыумфаваў. Але раптам армія спынілася на пазіцыях, з боку так званых "апалчэнцаў" пачаўся абстрэл горада. Мы зразумелі, што Луганск стаў закладнікам. Потым гэта інфармацыя пацвердзілася. Украінская армія вымушана была адысці з занятых пазіцый, бо ЛНРаўцы заявілі пасля двухдзённага моцнага абстрэлу жылых кварталаў, што калі армія не адступіць, то горад зраўняюць з зямлёй.

**— А хто тыя людзі, якія прыйшлі ў кіраўніцтва так званай Луганскай народнай рэспублікі?**

— Многіх мы наогул не ведаем. А каго ведаем... Ну, хто такі Болатаў?! Ён кіроўца аднаго нашага крымінальнага аўтарытэта, які быў "смотрящим" за незаконнымі вугальнымі шахтамі. Крымінальнік, адным словам. Тут усё даўно на гэтым пабудавана.

**— Вы знаходзіцеся ў эпіцэнтры падзей, дзе шмат людзей з рознымі поглядамі і перакананнямі. Па сутнасці, два лагеры, два супрацьлеглыя погляды на сітуацыю. Паміж суседзямі вайна ідзе?**

— Усе стаміліся ад вайны. Тыя ж "сепаратары", якія хадзілі за сваімі 100 грыўнямі і насіліся па мітынгах, ужо прыціхлі. Яны шчыра чакалі паўтарэння хуткага крымскага сцэнарыя. Маўляў, Пуцін увядзе войска, і мы тут будзем жыць з расійскімі пенсіямі і заробкамі. За дадатковыя сто долараў некаторыя ж могуць чорту душу прадаць!

Што гэта насамрэч за людзі, якія тут ваду муцяць, усе ўжо зразумелі. Бо калі захапілі СБУ і міліцыю, то марадзёрства пачалося ў першы ж дзень. Абрабавалі маршрутку, цяжка параніўшы кіроўцу, потым скралі 17 машын з аўтасалона, абрабавалі інкасатараў на паўтара мільёна грывень... Пачалося сапраўднае крымінальнае бязмежжа! Цётка маёй жонкі жыве ў Каменабродскім раёне, які моцна бамбяць. Яе суседа спыніў чалавек у міліцэйскай форме і сказаў: "Я забіраю вашу машыну". Той спытаў: "На якой падставе?" А яму ў адказ пасля доўгай паўзы: "Калі вы хочаце жыць, то я забіраю вашу машыну". Што заставалася рабіць? Прыйшоў пехам дадому і ўсё распавёў сваім. У якую міліцыю ісці, калі яе папросту няма? Каму заяву пісаць?

**— Раскажыце пра сённяшняе жыццё звычайнага жыхара Луганска. Страшна класціся спаць?**

— Наш дом у прыватным сектары, дык цяпер спальню зрабілі ў падвале. Там матрацы, коўдры, ложкі. А ў каго няма глыбокага падвала, бягуць на закінуты рамонтны завод, бо там даволі прыстойнае бомбасховішча. Мы ўжо па некаторых прыкметах можам здагадвацца, калі хутка пачнецца страляніна. Як "сепаратары" пачынаюць насіцца на скрадзеных машынах без нумароў ці з данецкімі нумарамі — то нешта будзе. Вось учора гляджу — стаіць за адным дрэвам "сепаратарская" машына, за другім — другая, прычым так сталі, каб з аднаго боку быў плот, а з другога — хмызняк. Схаваліся... І неўзабаве пайшла атака ўкраінскіх войскаў. Відаць, разведка данесла, вось яны і забегалі, хаваючыся.

**— А як у такой сітуацыі адчуваюць сябе этнічныя рускія, якіх там ледзь не большасць?**

— Мой бацька — з казачай вёскі, у якой жылі і жывуць данскія казакі-перасяленцы. Уся мая радня — у Растоўскай вобласці. І такіх, як я, тут сапраўды шмат. Многія, калі ўсё пачалося, паехалі да сваякоў. Некаторыя насілі на сабе мяхі на блок-пасты, дапамагалі расійскім вайскоўцам, якія асабліва не афішавалі сваю прыналежнасць і "касілі" пад апалчэнцаў. Але ў казацкім асяродку з цягам часу такія настроі пачалі сціхаць. Нават мой бацька, які хадзіў на рэферэндум, цяпер маўчыць. Людзі кардынальна змянілі пазіцыю. Не магу сказаць, што яны апраўдваюцца, што адчуваюць нейкую віну. Пазіцыя хутчэй такая: рускія, самі людзі, не вінаватыя, вінаваты прэзідэнт Пуцін і кіраўніцтва Расіі. Але ёсць і такія, якія кажуць, што Расія яшчэ пакажа "кузькину мать" усяму свету. Як жа без іх?!

**Гутарыла Любоў ЛУНЁВА.**

СТОП-КАДР!

## Семилетний мальчик доехал на велосипеде из Швеции в Германию



Семилетний Эдвин Бломдаль вместе с родителями преодолел 370 километров на велосипеде по пути из шведского города Кальмар в Берлин. Семья Бломдаль изначально планировала затратить на путешествие неделю, однако уложилась в четыре дня. Уже в первый день путешествия им удалось проехать 103 километра. В оставшиеся три дня Бломдали в среднем также проезжали по 100 километров.

А ЯК У ІХ?

# Краіна без войска

А ці ведаеце вы, што Коста-Рыка — адна з нешматлікіх краін свету, у якой няма рэгулярнага войска? І няма яго там ужо 65 год — з моманту прыняцця ў 1949-м новай Канстытуцыі краіны. А "вінаваты" ў гэтым фактычна адзін чалавек (вось вам і "роля асобы ў гісторыі") — Хасэ Фігэрэс Фэрэр.

Нарадзіўся ён у 1906 годзе. Ягоныя бацькі толькі незадоўга да таго перасяліліся з Каталоніі, і роднай мовай для Фігэрэса была каталонская. Сістэматычнай адукацыі ён не атрымаў, затое некаторы час пражыў у Злучаных Штатах, дзе набыў добры жыццёвы досвед. Па вяртанні на радзіму вырабляў торбы і канаты з канопляў, займаўся сельскай гаспадаркай і ажыццяўляў праекты ў прамысловасці. Паралельна пачаў удзельнічаць у грамадскім жыцці, публікаваў артыкулы ў мясцовай перыёдыцы, перажываў за справу іспанскіх рэспубліканцаў.

Сам сябе ён пазначаў як "фермер-сацыяліст". На сваёй ферме з характэрнай назвай "Змаганне без канца" (La Lucha sin Fin) ён наладзіў для сваіх працаўнікоў добрую сістэму сацыяльнай абароны: забеспячэнне жыллём, медыцынскую службу і нават бясплатнае малако для дзетак.

Паступова Фігэрэс пачаў уцягвацца ў палітычную дзейнасць. У 1942 годзе ён у адным з радыёвыступленняў дазволіў сабе крытычныя выказванні ў бок тагачаснага прэзідэнта краіны Рафаэля Кальдэрона. Вынікам была вымушаная эміграцыя ў Мексіку.

Калі ён праз два гады вярнуўся на радзіму, ягоныя думкі наконт палітычнай барацьбы зрабіліся куды больш радыкальнымі. Ён паціху пачаў рыхтаваць узброенае паўстанне, каб вярнуць краіну на дэмакратычны шлях развіцця (з якога, паводле глыбокага перакапання Фігэрэса, Коста-Рыка збочыла ў выніку дзейнасці Кальдэрона і ягонага паслядоўніка Тэадора Пікада). У 1945—1946 гадах Фігэрэс правёў некалькі тэрактаў, спрабаваў нават арганізаваць усеагульны страйк. Паралельна займаўся і легальнай палітычнай дзейнасцю — стварыў Дэмакратычную партыю, якую потым, у адпаведнасці з сваімі поглядамі, трансфармаваў у сацыял-дэмакратычную.

Да канца 1947-га Фігэрэс меў у сваім распараджэнні 700 узброеных чалавек, а таксама падтрымку з боку гэтак званага "Карыбскага легіёна" — групы лацінаамерыканскіх палітыкаў, якая ставіла сваёй мэтай барацьбу супраць дыктатарскіх рэжымаў. І тут кіруючыя колы Коста-Рыкі самі падалі яму casus belli (фармальную нагоду для абвяшчэння вайны).

Справа ў тым, што ў 1948 годзе ў краіне мусілі прайсці чарговыя прэзідэнцкія выбары. Прайсці яны мусілі зусім па-новаму, як яшчэ не было раней, дзеля таго каб пераканаць усіх у дэмакратычнасці костарыканскай сістэмы. Быў прыняты новы Выбарчы кодэкс, быў створаны адмысловы Трыбунал, які мусіў абвясціць імя пераможцы. Асноўным кандыдатам ад "партыі ўлады" быў той самы Кальдэрон, які раней ужо займаў прэзідэнцкую пасаду. Апазіцыя ж сваім кандыдатам вылучыла Атыліё Улатэ.

Мінуў дзень галасавання, падлічылі вынікі. А вынікі аказаліся ашаламляльныя! Улатэ на 10 тыс. галасоў абышоў Кальдэрона. Скандал! Кіруючая партыя ціске на Трыбунал, каб вынікі былі ануляваны. Трыбунал упарціцца. Тады ўлады звяртаюцца да Кангрэса. І той, урэшце, абвяшчае вынікі галасавання несапраўднымі. Кальдэрона абвяшчаюць прэзідэнтам, а Улатэ арыштоўваюць і кідаюць за краты. У адказ Фігэрэс заклікае сваіх прыхільнікаў да зброі.

12 сакавіка 1948 г. пачаліся сутыкненні паміж фігэрыстамі і прыхільнікамі ўлады. Прычым нават павярхоўны погляд на склад двух процілеглых бакоў можа сарваць дах любому палітолагу. На баку Кальдэрона акрамя рэгулярнага войска ваявалі камуністы, да якіх Кальдэрон ставіўся надзвычай прыязна, і прадстаўнікі каталіцкіх груповак. За Фігэрэсам, адпаведна, ішлі агалцелыя антыкамуністы і сацыял-дэмакраты. Ну, і да кучы Кальдэрона падтрымліваў нікарагуанскі дыктатар Самоса (які быў адной з мэт Карыбскага легіёна), для якога Кальдэрон быў "сваім антыдэмакратычным сукіным сынам", а Фігэрэс карыстаўся сімпатыяй з боку гватэмальскага прэзідэнта Арэвала, які, можа, камуністам і не быў, але далёка ад іх не адышоў, за што яго вельмі не любілі амерыканцы. Затое амерыканцы вельмі любілі Самосу, але яшчэ болей яны любілі антыкамуністаў, таму яны таксама падтрымалі Фігэрэса, а зусім не Кальдэрона, чаго ад іх, па ідэі, і чакалі. Карацей, любоў (і як следства — жыццё) — рэч вельмі складаная.

А вайна доўжылася 44 дні, унесла дзве тысячы жыццяў і завяршылася паразай костарыканскага войска і камуністычнай міліцыі. Фігэрэс, паводле дамоўленасці з Улатэ, зрабіўся часовым прэзідэнтам і ўзначаліў (а што вы думалі?) хунту. Гэтая хунта мусіла, паводле задумкі Фігэрэса, правесці кардынальныя пераўтварэнні ў краіне, каб здаць яе Улатэ ўжо "пад ключ".

Першым крокам была адмена рэгулярнага войска. Як лічыцца, Фігэрэс пайшоў на гэты крок пад уплывам кнігі Герберта Уэлса "Нарысы гісторыі" (не-не, і не спакушайце, "Нарысы гісторыі" — гэта зусім асобная тэма). А вось паліцыю Фігэрэс пакінуў, бо лічыў чалавечую прыроду недасканалай. Сярод іншых перамен — выбарчыя правы для жанчын і чорных, усеагульная адукацыя, нацыяналізацыя банкаў. І, канечне, забарона камуністычнай партыі.

А праз 18 месяцаў, як і было дамоўлена, Фігэрэс саступіў уладу Улатэ. А потым, ужо ў 1953-м, яго зноў абралі прэзідэнтам на тэрмін да 1958-га. А потым, у 1970-м — трэці раз ён заняў вышэйшую пасаду ў краіне. І кожны раз гэта адбывалася без маніпуляцый з галасамі выбаршчыкаў, што разбурае папулярнае меркаванне пра тое, што "ўсе так робяць".

І як жа, запытаеце вы, Коста-Рыка здолела пражыць без войска? Няўжо ніхто з яе суседзяў не спакусіўся лёгкай здобычай?

Было, адкажу, спакусіўся. І быў гэта ўжо вядомы нам Самоса — дыктатар нікарагуанскі. Ён, як Бурбон, нічога не забыў і нічому не навучыўся. Таму ў 1955 годзе, за часам другога прэзідэнцтва Фігэрэса, ён дапамог Кальдэрону, які хаваўся на ягонай тэрыторыі, зладзіць напад на тэрыторыю Коста-Рыкі. Фігэрэс жа быў не лохам. Ён ведаў, што ў бягучы час не вайсковая сіла вырашае лёс краіны, а ўменне выкарыстоўваць інстытуты міжнароднай бяспекі. Таму ён звярнуўся да Арганізацыі амерыканскіх дзяржаў (паверце, вельмі ўплывовай арганізацыі) па дапамогу, а тая абавязала Злучаныя Штаты прадаць Коста-Рыцы чатыры паветраныя знішчальнікі "Мустанг" па цане адзін долар за штуку. Каб Коста-Рыка здолела абараніць сябе ад паветраных налётаў.

Злучаныя Штаты апынуліся ў няёмкім становішчы. Падаецца, любоў да Самосы за гэтыя гады толькі павялічылася, бо ён дапамог ім скінуць ненавіснага прэзідэнта Гватэмалы Хакоба Арбенсу. З іншага боку, любоў да саміх Злучаных Штатаў з боку лацінаамерыканцаў здорава ўсохла, менавіта з-за дзеянняў ЗША супраць Гватэмалы. Таму Дзярждэп паморшчыўся і намякнуў Самосе, што, маўляў, трэба паводзіць сябе прыстойна. Самоса паморшчыўся і спыніў агрэсію.

Вось так Коста-Рыка і жыве, не маючы аніякіх "зялёных чалавечкаў" на сваёй тэрыторыі. Ды яшчэ і лічыцца самай шчаслівай краінай у свеце (калі верыць Міжнароднаму індэксу шчасця). Больш за тое, дрэнны прыклад заразны, і ў 1990 годзе паўднёвая суседка Коста-Рыкі Панама таксама адмовілася ад рэгулярнай арміі. І куды гэты свет коціцца?

**Яўген КРАСУЛІН.**

*Мінск.*

## «Рыбно-овощное» наступление

Российская санитарная служба приостановила ввоз в страну плодоовощных и рыбных консервов из Украины из-за выявленных нарушений, сообщили представители Роспотребнадзора. Запрет начнет действовать с 29 июля. С 28 июля Россия запретила поставки молока и молочной продукции из Украины, как сообщалось, из-за неоднократного обнаружения в ней антибиотиков тетрациклиновой группы и других нарушений.

## Украина: бои приблизились к месту крушения «Боинга»

Боевые действия на востоке Украины вплотную приблизились к месту крушения малайзийского "Боинга". В связи с усилением боев голландские следователи и полицейские второй день подряд были вынуждены вернуться в Донецк, так и не попав к месту крушения.

## ООН: погибли 1129 человек

**По данным ООН, с середины апреля в конфликте на востоке Украины погибли 1129 человек, 3442 получили ранения. Об этом говорится в отчете Управления Верховного комиссара ООН по правам человека.**

ФОТООКНО

# Эмоции

*Многие привыкли, что в спорте страсти бушуют лишь на футбольном поле, хоккейной площадке или теннисном корте. Однако на первый взгляд сдержанные и аристократичные шахматисты на поверку оказываются тоже весьма эмоциональными спортсменами. Вот только несколько снимков.*



Не окончивший матмех ЛГУ **Александр Халифман** в 1999 году взорвал публику отменной игрой на чемпионате мира в Лас-Вегасе, проходившем по "нокаут-системе": в каждом туре участники играли не одну партию, а матч из нескольких партий с гарантированным не ничейным результатом. Халифман выдержал этот марафон и добавил в свою копилку три миллиона долларов, после чего стал автором серии популярных книг и открыл шахматную школу.




Прямо во время блица хорватский гроссмейстер **Дамир Левачич** не прочь перекусить. Вообще, хорват больше отметился кулуарной работой: он курирует шахматный клуб в Каннах, развивает шахматы в Средиземноморье, а также представляет свою федерацию в шахматном аналоге ЕС.



Постоянный участник борьбы за звание чемпиона мира по шахматам **Борис Гельфанд** во время матчей любит похлопать себя по щекам. "Ударили по одной щеке — подставь другую" — израильский шахматист строго следует завету Христа.



С 2007 года **Вишванатан Ананд** удерживал звание чемпиона мира по шахматам. Но в 2013-м случился казус: Виши не смог защитить титул в родном Ченнаи и даже не выиграл ни одной партии у более молодого и агрессивного Магнуса Карлсена.



Первый в истории шахмат абсолютный чемпион мира **Магнус Карлсен** имеет такие прозвища, как Малыш и Викинг. Судя по этому фото, которое полюбилось завсегдатаям социальных сетей, к норвежцу может прилипнуть и прозвище Космонавт.

